

З Ізраіля ў Орлю ➔5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Кніжка пра Гайнаўку ➔8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 29 (3297) Год LXIV | Беласток, 21 ліпеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# «Басовішча» — вечна жывое

**Юбілейны, трыццаты фестываль Музыкі маладой Беларусі «Бвсовішча» перад намі. Але ці стане ён адначасна святочным і апошнім? Хацелася б верыць, што не. Але ўжо зараз можна смела гаварыць пра бясцэнны ўклад «Басовішча» ў духоўнае і грамадскае жыццё беларусаў паабапал мяжы. «Басовішча» гэта той з важнейшых ключоў для зразумення, што метафарычныя, беларускія крылатыя словы «людзьмі звацца» адаптаваліся тут, на Беласточчыне, менавіта і ў такой форме, і спрычыніліся да таго, што адчуваць сябе беларусамі дапамаглі тысячам маладых людзей. Пра ролю фестывалю для развіцця беларускай музычнай сцэны сказана ўжо не адзін і не другі раз. Як штогод «Ніва» з першага выпуску «Басовішча» апісвала гэтую падзею. Прапануем нашым чытачам і ўдзельнікам трыццатага «Басовішча» ўзгадаць, як яно выглядала на тым жа першым. Прапануем вашай увазе артыкулы Яна Максімюка, змешчанага ў «Ніве» № 32 ад 12 жніўня 1990 года і Валянціна Сельвясюка з «Нівы» № 33 ад 19 жніўня 1990 года. (рэд).**

Ян МАКСІМЮК




Так, такой імпрэзы ўсе чакалі, пра такую марылі. Да яе Беларускае аб'яднанне студэнтаў ішло праз шматлікія мерапрыемствы інцыдэнтальнага або ўнутранага характару: святкаванні такіх ці іншых угодкаў, турыстычныя вандроўкі, студэнцкія атрасіны, Купалле, больш ці менш афіцыйныя папойкі... І раптам „Басовішча”... Ну, можа не зусім раптам, ідэя фестывалю музыкі беларускай моладзі выношвалася ў студэнцкім асяроддзі бадай ці не год, хоць ажыццявіць яе давялося на працягу некалькіх напружаных тыдняў перад самой імпрэзай у Гарадку. Агульна кажучы, арганізаванне ў БАС зводзіцца да назначэння месца і прыблізнага часу імпрэзы (практыка паказвае, што пунктуальнасць, як такая, пазбаўлена для беларусаў жыццёвага сэнсу). Гэтая справа паглынае працэнтаў дзевяноста інтэлектуальнай і фізічнай напругі басаўцаў. Астатнія дзесяць (працэнтаў) прыпадаюць на закуп правіянту. Магчыма, што ў выпадку „Басовішча” гэты прынцып арганізацыйнай асіметрыі пахіснуўся, хоць... пачакаем афіцыйнай версіі падзей у Гарадку, якая будзе неўзабаве, як спадзяюся, прадстаўлена Міколам В. Пакуль што прапаную чытачам свае неафіцыйныя назіранні, адчуванні, хваляванні і блуканні па „Басовішчы”.

Месца на фестываль падыйшло, як трэба. Па-мясцоваму называецца яно Барык, што тлумачыцца па-амерыканску: Вудсток. Пагода, нібы па заказу: аксамітны летні вечар. Графічны сімвал фестывалю: выява свінні з крыллямі ў белым полі (лыч з левага боку, трохі скосам на гледача). Калі асэнсаваць гэтыя рэчы агулам, то ў рэшце рэшт можна і выбачыць студэнтам, што назвалі сваё „Басовішча” па-камсамольску: Фестываль музыкі беларускай моладзі. Калі я быў схапіўся і прапанаваў адзіную адпаведную назву — Фестываль музыкі Маладой Беларусі, — было ўжо запозна: студэнты шпарнулі тысяч колькі афішаў з анонсам імпрэзы. Маладосць, маладосць...

Дзень першы, 13 ліпеня. Меўся быць канцэрт аўтарскай і бардаўскай песні... Але ж барды не даехалі! Аднекуль нехта прынёс звестку, што мінскія выканаўцы запыніліся ў Брэсце і мітынгуюць. Так?! Значыць, на Гарадок ім напляваць?.. Тхнула духам узаемнага беларускага непаразумення... Праграму трэба было перайначваць. Я зразумеў, што ўсё ідзе звычайна, так як і належала спадзявацца. Прыехаў самаходам Пётр Скепка і паставіў на сцэне апаратуру. Мастацкі кіраўнік фестывалю, Бася Кучынская, якая ўжо ад ранія хварэла ад хвалявання, раптам апрацавалася і нанава зрэдагавала праграму. Учыніла мужнае намаганне запанаваць над хаосам і празмерным ростам арганізацыйнай энтрапіі або, як кажуць амерыканскія беларусы, палагодзіла балаган.

На змярканні хлынула ў Барык публіка. Ужо раней моладзь, якая прыехала сюды на тры дні, расставіла палаткі на пляцоўцы каля пагранічнай заставы. Мясцовыя прыйшлі пазней, але таксама на добрыя гадзіны дзве перад пачаткам імпрэзы, каб скаштаваць піва. Нейкі недабразычлівец „Басовішча” пусціў плётку, што гарадоцкі войт забараніў продаж піва. Нібыта таму, што людзі купляюць міхалоўскае, а гарадоцкага напою ніхто не бярэ... Аксамітны летні вечар захмарыўся на момант сутыкненнем драпежных капіталістычных інтарэсаў.

На сцэну выйшла віцебская „Грамада”. Гурт, які падабаецца і старым, і малым. Хлопцы пайгралі і паспявалі гадзінку, размякчылі публіку. Роўна а восьмай наступіла афіцыйнае запачатканне „Басовішча”: на сцэну выйшла Бася Кучынская ў шыкоўнай сукенцы і пантофліках, а за ёю я ў пінжаку свайго брата і ботах Валіка С., таксама шыкоўных. Прывітанні, пажаданні, падзякі, усё як трэба... Міраслаў Пякарскі, адзін з арганізацыйных кіраўнікоў фестывалю, адкрыў бутэльку шампанскага. Урраааа! „Басовішча” адкрытае! Скрозь буйныя слёзы ўзрушанасці я здолеў убачыць сярод публікі прэзідэнта БАС Яўгена Вапу з малжонкай, абложаных батарэяй піўных бутэлек, хто ведае пустых ці поўных...

На пачатак Сяржук Сокалаў-Воюш заспяваў пра птушку заўтрашняга дня, сімвал „Басовішча”. І ў Гарадок „Прыляцела з крыллямі свіння”!

Потым пайшла Беласточчына, зямелька родная. Што і казаць... Апалячвалі нас тут і апалячвалі, і не далі рады. Гады дарэмнай натугі. Сёння з шэрай масы тутэйшага люду падымаецца Маладая Беларусь з новымі песнямі і сэрцамі, узмужнелымі ў беспрытульнай вандроўцы па моры непакрыёмай варожасці.

„Не плач, Айчына, вялікі Бог магіл тваіх палечыць раны”, — спявала Эля Бэзюк цудоўныя словы Андрэя Сцепанюка. Пра веру ў тое, што прыйдзе час, калі Айчына-Маці ўсіх сваіх дзяцей ахіне сваім лонам... „І будзе баль, карнавал”... на атручанай і чарвівай зямлі, калі народ запатрабуе адплаты за апаганеныя і знішчаныя свае святыні...

Дзяўчаты запалілі зніччы і свечкі і абставілі імі сцэну.

Нешта там не наладзілася ў хлопцаў з „Альбаросікі”, і на вялікае сваё засмучэнне дзяўчаты даведаліся, што выступу гэтага гурту на „Басовішчы” не будзе. Затое прыбыў іхні вакаліст Янка Хоха з гітарай. Ён заспяваў усяго тры песні, але як! Янка з той нешматлікай і зайздрасці годнай пароды музыкантаў, за якімі дзяўчаты ідуць як у дым. Хай там імперыі знікаюць, хай там... што яшчэ?... ну, чужаніца жывое побач, а яны ўсё роўна за ім! У атмасферы вычувалася напружанасць, на мяжы эратычнай істэрыкі.

Я асушыў адну бутэльку піва з запасаў прэзідэнта і ягонай малжонкі.

Дуэт семінарыстаў з Яблачына — Дарафей Фіёнік і Адам Ляўчук — зацугляў разбрыканую публіку і прымусіў настроіцца на яшчэ іншы лад: на ўспрыманне ў дыяпазоне духоўнай медытацыі, падмацаванай віртуознай ігрой на гітарах. Нехта, з гордасцю за Беласточчыну, кінуў заўвагу, што „Басовішча” — гэта найзначнейшая падзея ў дзейнасці БАС з часу яго заснавання. Мне зрабілася страшна...

Перад мікрафонам засеў Віктар Шалкевіч з Гародні, адрэкамендаваны Басяй Кучынскай як „бацька бруднага беларускага блюза”. Знарок рэзкі і „неахайны” акампанемент на гітары дасканала адцяніў ядавіта-салодкія, вяскова-гарадскія, мужыцка-інтэлігенцкія панбеларускія тэксты Віктара. Раманс пра Беласточчыну і звалены Яновічаў плот выклікаў фурор... Апаратура Пятра Скепкі пачала даваць у гарадоцкі эфір нейкае падазронае рэха... Віктар сышоў з эстрады як новакрэаваная зорка...

чытайце ☞ 4





# Адны
## на востраве

У гэтым месяцы беларускія аналітыкі, журналісты, палітолагі вялікімі шэрагамі і вялізнымі газетнымі ды інтэрнэтнымі калонкамі падводзяць вынікі 25-гадовага кіравання Рэспублікай Беларусь першым і дагэтуль адзіным прэзідэнтам дзяржавы. 10 ліпеня 1994 года пасля другога тура прэзідэнцкіх выбараў у найноўшай гісторыі наступіў кардынальны пункт адліку асаблівага кірунку развіцця і існавання. Чвэрць стагоддзя па мерках гісторыі — імгненне, але па мерках асобнага чалавечага жыцця — цэлая вечнасць. Вырасла цэлае пакаленне, нарадзілася яшчэ адно, а тое, што выбрала для цэлага народа савецкае мінулае, амаль цэлым пакаленнем адышло з гэтым вялікім грахом у іншы свет.

За дваццаць пяць гадоў суседзі беларусаў памянялі па шэсць-сем кіраўнікоў сваіх дзяржаў, паспелі перажыць і крызісы і пад'ёмы, некаторыя цэлыя рэвалюцыі. Суседзі не пераўтварыліся ў квітнеючыя краіны, але маюць усе падставы глядзець на нас у дыяпазоне ад спачування да раздражнення, ад паблажлівасці да здзеклівасці. Можна знайсці разгорнуты адказ, чаму так здарылася, што еўрапейская краіна са славутай гісторыяй і багатай культурай апынулася апошняй дыктатурай кантынента. Можна бясконца выяўляць першапрычыну такога стану, які вынікае найперш з імперскай палітыкі Расеі. Але няма адказу на іншае пытанне — як выбрацца з гэтай глыбокай балотнай каляіны і здабыць права на змены, на пераўтварэнне сімбіёзу афрыканска-азіяцкай мадэлі кіравання Беларуссю ў дэмакратычную.

Зрэшты, ужо ўсе еўрапейскія палітыкі і ўрады перасталі называць персаналісцкі аўтарытарны рэжым Лукашэнкі апошняй дыктатурай Еўропы. Спачатку з дзяржавай РБ актыўна пачалі супрацаваць заходнія краіны, такія як Германія, Аўстрыя, Францыя, цяпер падцягнуліся і ўсходнія, якія яшчэ зусім нядаўна самі перажылі падобныя прыгнятальныя рэжымы. Адпаведна з тэорыяй і практыкай рэал-палітыкі, якая так расквітнела за апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў.

А такіх палітыкаў, як Вацлаў Гавел, Лех Валэнса ці Вітаўтас Ландсбергіс на кантыненце больш няма. Сучасныя еўрапейскія прагматыкі пляваць хацелі на беларускія дэмакратычныя рухі і памкненні. Зараз нават візы зрабіць прадстаўнікам грамадзянскай супольнасці стала праблематычна. Еўрапейская бюракратыя і канцыляршчына нарастаюць з кожным годам. Вось ужо і візы згаданыя шэнгенскія для беларусаў будуць па 80 еўра. Еўрасаюз канчаткова глядзіць на беларусаў, як на людзей другога, ці нават трэцяга гатунку. Усемагутная ненажэрная бюракратыя хоча нажыцца на бядзе беларусаў, гатовая забраць у іх нават права перамяшчацца праз мяжу. Каму справа да патрэб і жыцця маленькага чалавека!? У свеце няма літасці, як некалі казаў Сакрат Яновіч.

Вось псеўдабежанцаў з Азіі і Афрыкі, большыня з якіх ненавідзіць еўрапейцаў, можна пускаць у Еўропу тысячамі, дзясяткамі тысяч, не тое што без віз, а нават без дакументаў. Пад іх можна пракручваць мільённыя, так званыя сацыяльныя праекты пад нібыта адаптацыю з адпаведнымі вялізнымі адкатамі. Такая палітыка шыракаў-меркеляў і ім падобных, якія пра заўтрашні дзень Еўропы даўно не дбаюць. То навошта гэтай еўрасаюзнай бюракратыі законапаслухмяныя працавітыя беларусы? Хай альбо плацяць гэтай бюракратыі, альбо загінаюцца ў сваёй краіне.

А вось чыноўнікі Беларусі, нават вельмі адыёзныя, зараз чаканыя госці на самых высокіх еўрапейскіх форумах і канферэнцыях. Нічога, што ровень іх адукацыі, кампетэнцыі, разумення ніяк не адпавядае дэклараваным еўрапейскім каштоўнасцям. Галоўнае — гэта супольныя грантавыя праграмы і праекты, а вось як іх рэалізаваць-пракруціць, каб усе былі задаволеныя, тут у іх абсалютнае паразуменне.

Так што грамадзяне Беларусі застаюцца зараз на сваёй „няшчаснай выспе" без выбару і выбараў, без правоў і свабоды. Застаюцца пасярод акіяна бюракратыі і крывадушнасці абсалютна самотнымі. Пакуль неяк прыстасоўваюцца і выжываюць на гэтым „востраве стабільнасці", але ўсё больш упадаюць у дэпрэсію і зняверанасць.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Заўсёды пані Нюся



Д'ябал гойсаў па Нарве. Да часу. За штаб-кватэру ён выбраў шынок па дарозе ў Бельск-Падляшскі, званы — а як жа ж!» — «Д'ябальскай кухняй». Магчыма, толькі для маскіроўкі падавалі ў ёй даволі смачную ежу, а серай не смярдзела. У любым выпадку д'ябал нікому не кідаўся ў вочы, іншымі словамі, і хоць быў там, быццам бы яго там не было. Але ў гэтым д'ябла варнасць. Калісь, кажуць, скардзіўся айцец Гаўрыіл, што хоць з Нарвы ў скіт недалёка, а ў шынку стравы выклікаюць слінку, ён не можа запрасіць сюды пачаставаца сваіх годных гасцей. Ну, стравы як стравы, але духоўны чалавек у пякельную кухню не прывязде на спакусу шаноўных гасцей?! Таму ён вёз іх у Міхалова, у Нараўку ці нават у Гайнаўку, марнуючы кошты і час. А дарогі поўныя дзір і выбоін. А чым глыбейшая дзірка, тым бліжэй яна да дна пекла, і далей ад нябёсаў. І чым больш дзірак на дарозе, тым больш чалавечых душ вытрасаецца на іх. Нават самыя браніраваныя ў веры могуць не ўстаяць і аблаяць грэшным словам! О, гора ды срам! А ў шынку таксама адбываліся вяселлі, камуніі і, вядома ж, мярліны. Хай там вяселлі! «Пякельная кухня» не мяшае забаве. Тым больш, што для многіх шлюбныя адносіны — сапраўднае пекла. Але ў выпадку пахавання? Як тут задумацца пра смерць, марнасць чалавечага жыцця, сэнс чысцілішча, калі хто верыць, у... «Пякельнай кухні»? Сапраўды, д'ябал падставіў уладальнікаў шынка. Аднак пасля назвалі шынок проста «Пры дарозе», і ўсё пачало каціцца гладка.

Пачаў пра д'ябла, дык скончу. На гэты раз я раскажу пра маю сустрэчу з яго, здавалася б, анёльскай эманацыяй. Выступіла яна ў постаці пані Нюсі, якая адняла ў мяне бязгрэшнае дзяцінства. Мне сапраўды не падабалася хадзіць у дзіцячы сад, бо вельмі баяўся сваёй настаўніцы. Пані была анёльскай бландзінкай са злавесным паглядам пранізліва блакітных вачэй. Нішто не ўцякло ад яе ўвагі. Ні мае таемныя паходы з Агаткай у туалет, дзе закаханыя дашкольнікі прызнаваліся адзін аднаму ў любові, прапанове шлюбу, кончыўшы абяцанні супольным засяданнем на гаршчках, ні мае штодзённыя сутычкі з Людвічкам, які раўнаваў Агатку. Як толькі я схапіў руку сваёй маленькай абранніцы, каб збегаць з ёю ў туалет, вырастала перад намі Нюся і пацягушкай па нашых попках заганяла нас у статак. І калі я пры сняданку выбалкаў макарончык з талеркі малочнага супу, каб ляпнуць ім у Людвічка, зараз над намі павісала гала-ва пані Нюсі. Пакараннем за боўтанне пальцамі ў супе была парухвілінная ізаляцыя ад астатніх дзяцей, на каленках у куце. Я стаяў на каленках пад сцяной і не мог бачыць, якія агрэсіўныя міны рабіў за маёй спіной Людвічак. І не толькі ён. Пані Нюся заклікала ўсіх дзяцей да абсмейвання мяне. Нават Агатку. Тая, раскаяўшыся, падрабязна потым паказвала мне ўсё крыўлянне, якім іншыя дзеці здзекаваліся нада мной. Асабліва Людвічак. Аднойчы Агатка, заклікана мной, каб яшчэ раз паказала асабліва агідныя міны майго суперніка, паднялася на вяршыню сваіх мімічных талентаў. Вось Агатка страшна перакасіла вочы, вывінула сардэчнымі пальцамі свае павекі, адначасова паказваючы ўказальнымі д'яблавы рогі. Потым ўставіла мізінцы ў ноздры, а тоўстымі пальцамі расцягнула вусны ў дурнаватую ўсмешку. Кульмінацыяй гэтай абрыдлай міны быў абслінены язык, вывіты аж да падбародка. І гэтага было зашмат! Загарэлася лямпачка. Людвічак не быў такі творчы! Альбо Агатка перабольшыла з імітацыйнай стараннасцю, альбо зламысна дадала ў яе некалькі элементаў. У абодвух выпадках я стаў ахвярай дэзынфармацыі. Пытанне: мэтанакіравана ці несвядома — няважна. У раптоўнай успышцы інтуіцыі я ўбачыў Агатку як раз'юшаную жонку і... спалохаўся. Парваў усе свае абяцанні непахіснай любові і сужэнства да магілы, а Людвічку прысягнуў жудасную помсту. Тым больш, што праз некалькі дзён яму ўдалося завабіць Агатку на сакрэтнае спатканне. Магчымасць адплаты прыйшла на наступны дзень. На вячэру нам падалі макароны ў мясным соусе. Я ўжо падымаў талерку, каб ляпнуць яе ў буську Людвічка, калі раптам адчуў моцны ўдар па галаве і страціў прытомнасць. Зразумела, гэта пані Нюся была экзекутарам! Як ні дзіўна, некалькі дзён таму з настаўніцы дзіцячага садка стала яго кіраўніцай. А я ў гэты момант вырашыў стаць пісьменнікам. Несумненна, макаў у гэтым свае рогі д'ябал. Значыць, пані Нюся зноў абнаўляла сатанінскі кантракт з сіламі цемры. Ці ў індывідуальнай, ці калектыўнай форме. Цяпер ашчаперылася над усёй краінай. Але ж Польшча гэта не дзіцячы сад. Вось так!

Міраслаў ГРЫКА

Сваімі вачыма

# Выхад з запаведніка

(«Ніва» № 33 ад 19.08.1990 г.)

„Рэвалюцыя ў беларускай культуры Беласточчыны" — так магу назваць першы Фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча". Аглядаў беларускай песні адбылося на Беласточчыне шмат. Чаму ж тады, нехта можа запытацца, прыдаю такое значэнне „Басовішчу"? Бо значэнне „Басовішча" ў тым, што адолела яно некалькі бар'ераў, якія ў мінулым здаваліся быць па-за жыццёвымі магчымасцямі беларускай меншасці. У свой час, здавалася, беларуская культура была канчаткова асуджана на вясковасць. Фальклор і народная традыцыя могуць быць багатымі крыніцамі інспірацыі, але ў варунках жыцця нашай меншасці такая мадэль культуры сталася формай павольнага памірання. Пераход з вёскі ў горад, як правіла, канчаўся дэнацыяналізацыяй. У выніку стваралася форма існавання беларускай культуры на правах запаведніка: штодзень усё па-польску (формай і зместам), зрэдчасу фестываль песні, на якім у фабрычна выканаваных „народных" строях аматарскія калектывы прэзентавалі фальклорныя напевы, дапасаваныя да панурай эстэтыкі новага мяшчанства.

На „Басовішчы" загучала сучасная музыка. Сучасная, бо створаная ў сучасны момант. Сучасная ў разуменні сучаснай формы. Сучасная ў разуменні сучасных праблемаў. Сучаснай была таксама публіка, якая ўспрымала гэтую музыку не як водгук далёкага дзяцінства, а як частку свайго сучаснага жыцця.

Пра публіку можна агульна сказаць, што была яна маладая і без комплексаў. Не мае значэння, ці складала яе моладзь гарадская, ці вясковая, паколькі ўсе агулам прэзентавалі адзін тып пост-індустрыяльнай культуры. Усе яны з'явіліся на „Басовішчы" ў пошуках нейкай формы выяўлення сваіх пачуццяў. Некаторыя з іх штодзённа карыстаюцца польскай мовай, але толькі адзінкі, як думаю, адносяцца да сваёй нацыянальнай тоеснасці абыякава.

Немалую частку публікі складалі госці з БССР. Хаця відаць была розніца ў паводзінах паміж імі і беластачанамі, то ў агульнасці выявілася аднолькавая форма ўспрымання рэчаіснасці і маніфеставання жыццёвых паставаў. Каторы ўжо раз аказваецца, як слабой, у сэнсе культуратваральным, была камуністычная сістэма. На самай справе „Басовішча" сваёй формай і зместам пратэставала супроць камуністычнага таталітарызму.

„Басовішча" было фестывалем нацыянальным. Поўнакроўна загучала на ім беларуская мова, натуральна, у беларускім асяроддзі. У шмат якіх песнях гучала ідэя нацыянальнай незалежнасці, а бел-чырвона-белыя сцягі публікі былі адказам. Здарылася мне пачуць, што „нармальнасць" не патрабуе гэтых сцягоў. Мне якраз здаецца, што ў ненармальным становішчы краіны гэтыя сцягі і ёсць выяўленнем нармальнасці.

„Басовішча" паказала некалькі жанраў музыкі, якія ў Беларусі не маюць вялікай традыцыі. Апрача актыўнага рока „Уліса" і „Мроі" была палітычная песня Сокалава-Воюша, грамадска-палітычная сатыра Шалкевіча, паэтычныя песні Элі Бэзюк, Фіёнка і Леўчука, Касі Камоцкай. Было б пажадана, каб „Басовішча" сталася стымулам для развіцця гэтых жанраў.

„Басовішча" было імпрэзай дэмакратычнай. Калі ўжываю гэтае слова, то маю перш за ўсё на ўвазе дэмакратычны характар поп-культуры, які выразна адчуваўся на фестывалі. Разарвалася зачараванае кола „інтэлігенцкасці" беларускай нацыянальнай культуры. Тэорыя „спружыны", паводле якой меншасць мае быць цалкам асіміляваная, апрача невялікай групы свядомай інтэлігенцыі, у даным выпадку не супадала з рэчаіснасцю. Вядома, не трэба праяўляць залішняга аптымізму ці рабіць абагульняльныя высновы на падставе аднэй імпрэзы. Паўтысячы маладых удзельнікаў „Басовішча" — гэта яшчэ далёка няпоўная рэпрэзентацыя беларускай моладзі Беласточчыны. Выдаецца аднак, што пастаўлены першы крок, і вядома, як трэба паставіць наступны.

„Басовішча" трэба арганізаваць штогод. Гасцінная гміна Гарадок, здаецца, была б найлепшым месцам. Фестываль можа стацца нагодай для канфрантацыі новых музычных дасягненняў, нейкай формай беларускага „Вудстока". Ідэалам было б, каб людзі ехалі на „Басовішча" з мэтай знайсці там асабістую свабоду. Свабоду ў сэнсе палітычным, у сэнсе светапогляду, свабоду таксама ў міжлюдскіх зносінах.

І яшчэ дзве справы. „Басовішча" было часткова спансаравана нью-йоркскім гуртком „Васілёк" і Арганізацыяй беларуска-амерыканскай моладзі. Факт, што маладыя амерыканцы беларускага паходжання лёгка зразумелі свае беластоцкіх сяброў, паказвае на універсальны характар нашага маладога руху. Ідэяй арганізатараў было стварэнне ўдзельнікам фестывалю магчыма найшырэйшага прастору для выяўлення індывідуальнага спосабу паводзін. Таму ўвесь рэгламент імпрэзы зводзіўся да неабходнага мінімума. „Басовішча" ў аніякім выпадку не нагадвала гарцэрскага лагера. І трэба сказаць, што ўдзельнікі належна ацанілі гэта і паказалі высокі ўзровень культуры. Хацелася б падзякаваць усім прысутным.

Валянцін СЕЛЬВЯСЮК



# Жыровічы:
## аддыхацца ў святой цішыні (3)

Першая літургія пачынаецца ў пяць раніцы паводле польскага часу. Якраз у гэты час у мясціне назіраецца сякі-такі зрух. З супрацьлеглых бакоў вуліцы ў сабор спяшаліся паломніцы, захутаныя ў тактоўныя апранахі і хусткі. Праўда, слова «зрух» тут не зусім на месцы. У пятніцу, 28 чэрвеня, на ранішнюю багаслужбу прыйшло недзе да трыццаці асоб. На трэці дзень пабыўкі ўсе яны здаваліся мне знаёмымі. Менавіта з-за сціплай колькасці паломнікаў Жыровічы прамовілі як элітны духовы цэнтр. Аднак падобныя ўражанні можна атрымаць толькі ў будзённы аўторак, чацвер ці пятніцу. У суботу, калі нахлынуць турысты, месца адменіцца і прамовіць памінску...

Але цяпер, у 4 гадзін 45 хвілін раніцы я спяшала ў царкву, замятаючы жыровіцкі асфальт сваёй доўгай спадніцай. Дзенідзе кукарэкалі пеўні, пагаўквалі сабакі. Пры дарозе не было тратуара, таму калі над'язджалі машыны, кожны раз прыходзілася саступаць на абочыну, аброслую конскім шчаўем.

Ранішнія багаслужбы будуць заўсёды напамінаць мне гады дзяцінства і Вялікую суботу перад Вялікаднем. Бацькі разбуджвалі са сну ноччу і пад яе покрывам фурманкай ехалі ўсёй сям'ёй у царкву. Дзесьці на золку, калі праз царкоўныя вокны ўлівайся блакіт світання, падносілі дзяцей да прычасця. Рытуал агучыў пранізлівы плач немаўлят і ўрачысты спеў царкоўнага хору. Усё адбывалася быццам у паўсне, які прадвяшчаў надыход вялікага свята. Мала хто рашыўся адступіць ад старога абраду, ніхто не ўлічваў неахвоты дзяцей, усе разумелі цану прысвячэння.

І зараз той успамін адганяў ляноту, настройваў на сустрэчу з Жыровіцкай Іконай Божай Маці.

* * *

Нават у самыя змрочныя гады ваеўнага атэізму ў Жыровічы прыходзілі паломнікі. Слава цудадзейнай іконы прыцягвала ўжо з канца XV стагоддзя. Яна адзіная ў сваім родзе і надта сугучная душы беларуса. Ікона велічынёй дзіцячай жменькі з'явілася на грушы-дзічцы. Дрэва расло ў падножжы гары, адкуль выцякала крыніца. Пра пачатак культу расказвае такая вось легенда:

Дзеці пастушкі бачаць на грушы святло. Калі дакранаюцца да святла, бачаць каменную іконку. Нясуць яе свайму пану, магнату Аляксандру Солтану. Той спачатку скептычна ставіцца да расказаў дзяцей, але бярэ іконку і хавае яе ў скрыццы. Праз дзень у яго госці. Гаспадар хоча пахваліцца рэдкай знаходкай. Аднак калі адкрывае скрытку, там нічога няма. Вяльможу займае мову, не ведае што думаць. Праз некалькі сутак дзеці зноў знаходзяць іконку на грушы. Зноў прыносяць яе пану Солтану. Зараз і ён пачынае думаць пра цуд. З часам, на месцы з'яўлення, Аляксандр Солтан узводзіць царкву. Весткі пра цуд маланкава абыходзяць Вялікае Княства Літоўскае. З усіх куткоў Беларусі хлынуць паломнікі. Ёсць звесткі пра ўваскрэсенні з мёртвых...

Вобраз нараджэння культу Іконы цягам чарговых стагоддзяў падымаюць народныя мастакі, іканапісцы, вандроўныя дзяды-лірнікі. У асобах дзяцей яны часта бачаць анёлаў, замоленых у рассветленае дрэва з выявай Багародзіцы. І зараз гэту ікону можна сустрэць у падляшскіх цэрквах.

Яшчэ перад пачаткам літургіі людзі выстройваліся ў чаргу і падыходзілі пакланіцца іконе. Некаторыя з паломнікаў прыкладаліся шмат разоў — раніцай, у абед, вечарам. Быццам верылі: чым больш разоў, тым лепш падзейнічае.



■ З Валяй і Зояй ля святой крыніцы

* * *

Са мной таксама ажыццяўляўся дзіўны план. Літургія закончылася каля дзевяці гадзін раніцы. Калі я збіралася да выхаду, пры варотах чакалі мяне сёстры Валя і Зоя.

— Пайшлі, — прапанавалі яны, — паснедаем разам.

Наша знаёмства завязалася, так сказаць, без асабістага ўдзелу. Спачатку мы прыехалі на адной маршрутцы з Берасця, а пасля некалькі разоў абмінуліся ў калідоры гасцініцы. Зараз жанчыны палічылі сваім абавязкам прыгарнуць мяне да кампаніі. Усё для таго, каб не абмінулі мяне прапановы і магчымасці, якія прыслугоўваюць паломнікам. Вось у цане неверагодна таннага начлегу прыезджым прапанавалі кругласутачнае харчаванне.

Іншая рэч, не так проста папасці ў сталоўку для пілігрымаў — будынак схаваны ўнутры манастырскай зоны і за першым разам цяжка запамятаць дарогу. У парозе *трапезнай* прывітаў рослы, малады кухар. Ён пасадзіў нашу тройцу за стол, даў у рукі выслужаныя лыжкі і насыпаў у талеркі кашы. На стале стаялі салаты з капусты, буракоў і памідораў. І яшчэ таматны соўс.

— Чай будзеце? — пытаў ён,

— Будзем, — адказалі сёстры.



■ Магіла святога Мітрафана

У адказ на стале з'явіўся кубак пасаладжанай гарбаты са скібачкай смачнага пірага. Хацелася нешта сказаць, пахваліць яду. Але навокал бубнілі адны лыжкі, ніхто не адважыўся парваць цішыню. Усе пачуцці праяўляліся пры дзвярах. Усе нізка кланяліся кухару і выказвалі прыгожыя словы падзякі. А ён, задаволены, падбіваў у такт:

— *На здароўе! На славу Божую!*

Пасля ўсю дарогу мы гаварылі не пра манастырскую яду, а пра стройнага, ветлівага кухара:

— Ён то не толькі напячэ і наварыць! Яшчэ так прыпрасіць, што ўсё з'ясі ад яго са смакам...

Праўда, самым вялікім прысмакам нашай тусоўкі аказалася палеская мова. Валя і Зоя прыехалі з падберасцейскіх Прылук і мы з ходу загаварылі па-свойму.

Здавалася, зноў зніклі межы і ўсе недаразуменні, якія праследуюць беларусаў па двух баках граніцы.

* * *

Каб падмацаваць дух сяброўства, мы разам выправіліся да старой крыніцы. Яна знаходзіцца тры кіламетры ад манастыра. Для Зоі, у якой хворая нага, гэта быў незвычайны выклік. Мы ішлі соннымі вулачкамі Жыровіч і што крок набожна паўтаралі адну фразу:

— Як добра, як ціха!

Усё гэта з-за адсутнасці электрычных газонакасілак. Сёння немагчыма ўжо ўявіць лета без кашмарнага гулу касілкі. Яна заняла трывалае месца ў жыцці як гул машыны ці брумкат халадзільніка.

Але як кажуць — харошага панямножку!

Ля крыніцы прывітала нас рамонтная брыгада з мотапілкамі. Усе будаўнікі, хоць у маладым узросце, неслі на сваіх пакутлівых тварах запісаныя трагедыі і шкодны звычкі. Пра такіх у нас кажуць: гараўнікі. Карацей, завіхаліся арыштанты з недалёкай турмы. Я папрасіла ў аднаго, каб сфатаграфаваў нашу кампанію. Хлапец доўга прытрымліваў фотаапарат у руках, быццам кантакт з прыладай вяртаў раскінутае, стаптанае пачуццё чалавечай годнасці.

— А што вы рабіць будуеце, — спытала я замест падзякі, — якія парадкі тут наводзіце?

Арыштант, пакуль даў адказ, доўга падбіраў словы. А пасля вымавіў на сцішанай, сардэчнай ноце:

— *Красату дзелаем!*

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Народны фэст у Ляўкове

12 ліпеня гэтага года ў Старалляўкоўскай парафіі традыцыйна ўжо святкавалі Пятра і Паўла. У гэты дзень у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета — як ужо і ад пару гадоў — гмінныя ўлады і Гмінны асяродак культуры ладзілі ад 17-й гадзіны беларускі фэст. Сёлета 12 ліпеня пасля поўдня стаяла прыемная сонечная пагода.

Культурна-забаўляльнае мерапрыемства адкрыў Яраслаў Галубоўскі, войт Нараўчанскай гміны. Сардэчна прывітаў усіх удзельнікаў фэсту і зычыў ім самых лепшых музычных уражанняў ад канцэрта і пасля яго добрай танцавальнай забавы. Канцэрт вяла Крыстына Паскробка са Старога Ляўкова. Першым на сцэне выступіў выдатны саліст Сяргей Шабадалаў ды фальклорны калектыў з Дагды (Латвія). Ён вельмі прыгожа спяваў беларускія песні. Яны ўсім спадабаліся. Фурорны быў выступ „Цаглінак” са Старога Ляўкова (яго мастацкі кіраўнік Мікалай Мяжэнны). Вельмі спадабаліся песні і танцы „Калінкі” з Беластока (мастацкі кіраўнік гурту Марыюш Харужы). Яшчэ спявалі і гралі на высокім узроўні папулярныя на Беласточчыне і не толькі калектывы „Севен” з Бельска-Падляшскага і „Арт-Пронар” з Нарвы.


„Цаглінкі” са Старога Ляўкова


Жаночы гурт з Дагды

Паміж песнямі ад калектываў былі з нагоды свята самыя лепшыя пажаданні ўсім Пятрам і Паўлам. Затым зноў і зноў плылі звонкія польскія, беларускія і ўкраінскія песні. Усе калектывы выступілі паспяхова. Прыемна і весела было паслухаць іх у вольны святочны час. Для прыгожых ды вясёлых песень варта было быць на фэсце. Панавала прыемная атмасфера. Сабралася многа людзей. Прыехалі на аўтамашынах нават з далёкіх вёсак.

Пасля 20-й гадзіны вечара ішлі танцы пад спеў і гучную музыку калектыву „Твістэр”. Гуляла моладзь і старэйшыя. Гучна было да поўначы.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Купалле ў Белавежы

6 ліпеня ў Белавежы Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Белавежскі асяродак культуры зладзілі традыцыйнае ўжо там Купалле. Пачалося яно шпаркім паходам з сядзібы Белавежскага асяродка культуры ў тамашні амфітэатр.

На сцэне выступіла шмат выканаўцаў. Была салістка Вераніка Пташынская з гайнаўскага белліцэя, былі дуэты, тэрцэты, квартэты, большыя ансамблі. Выканаўцы былі з Белавежы, Рыбал, Махнатага, Чыжоў, Крынак, Гайнаўкі, Гарадка, Міхалова, Бельска і Мінска. З Беластока было некалькі больш і менш вядомых калектываў. Канферанс вяла Ілона Карпюк-Дамброўская. Мелодыі папулярных беларускіх песень падрывалі прысутных да танцаў. А аўдыторыя, на мой погляд, налічвала звыш тысячы асоб, пераважна моладзевага ўзросту.

(івар)

1 ☞ працяг

# «Басовішча» — вечна жывое

На эстраду ступіў Сяржук Сокалаў-Воюш. „Аксамітны летні вечар” падхапіў раздабрэлую ад эстэтычных уражанняў публіку на ногі. І яна ўжо не села да канца выступу Сяржука. Спявала разам з ім... А тут яшчэ Сяржук праспяваў новы свой тэкст, у якім дужа-дужа добра адазваўся аб БАС. Я думаў, што басаўцы падурэюць ад шчасця... Паветра наэлектрызавалася нацыянальным флуідам... Струны гітары лопалі са свістам... Сяржук памяняў адну гітару, другую... „Ну, што спяваць яшчэ?” Людзі сказалі яму, што. Усё, што ведалі і чулі дагэтуль у ягоным выкананні. Апаратура звягала з апошняе моцы і жахалася трывожным сабатажным рэхам...

Было яшчэ пару добрых крокаў да поўначы, калі перад мастацкім кіраўніком фестывалю, міс Кучынскай, узнікла страшнае пытанне: што далей? Паводле распіскі, усе пункты праграмы вычарпаліся... Сітуацыю паправіў Уладзімір Варачаеў, які прыехаў разам з Сяржуком, і запрапанаваў свой выступ... Бася ўхапілася за прапанову, як тапельнік у Семяноўскім вадасховішчы хапаецца за саломінку... Але і гэтага было мала. Тады яна папрасіла ў хлопцаў з „Грамады”, каб выступілі яшчэ раз і даканалі раз’юшаную публіку, каб яна ўжо пайшла спаць...

Ды тут аказалася, што знік адзін неабходны кабель, каб на яго ліха, а разам з ім і Пятро Скепка. Пасля паўгадзінных роспачных гуканняў праз мікрафон паявілася адна паненка і прынесла той кабель... Адкуль яна ведала, што якраз такі патрэбны? „Грамада” рушыла ў атаку...

Я рушыў у Станцыю Валілы пераначаваць у Алеся Карпюка. Маёй растрывожанай існасці пад аксамітным гарадоцкім небам спадарожнічала духоўная і цялесная прысутнасць маёй малжонкі.

Дзень другі, 14 ліпеня. Зранку неба сыпнула далікатным дожджыкам, от, нехта расплёскаў паўкуфліка на небе або чыхнуў брамнік Пётр... Студэнты пазіралі ў неба з панурым дакорам. Але ж не, усё прасвятлела, і неба, і наваколле, і нашы душы грэшныя...

Апоўдні тэхнічная экіпа з беластоцкага клуба „Гвінт” прыцягнула грузавіком некалькі тонаў гукаўзмацняльнікаў і кабеляў. Другі дзень „Басовішча” прызначаны быў цяжказбройным шыхтам. Даехаў яксьці аўтобус з мінчукамі, а ў ім Кася і Алесь Камоцкія, Вольга Цярэшчанка (з Гомеля)... З Гданьска сваім аўтобусікам прыехала „Мроя”, потым паявіўся на сваім табары „Уліс”. Публіка падкарочвала час чакання, узіраючыся ў відэазапіс „Вудстоку” (амерыканскага). Праграму другога дня зноў трэба было перагледзець і змяніць.

Цяперака гукаўзмацняльнікі былі расстаўлены пад дахам, метраў дваццаць-трыццаць ад учарашняй сцэны.

Пакуль хлопцы шыхтаваліся пры апаратуры, я дарэмна шукаў Валіка С., ці, дакладней кажучы, ягоных шыкоўных ботаў з амерыканскай скуры. Прыйшлося пачынаць фестываль у сваіх паслякамуністычных сандаліках. Бася тым разам выступіла ў спадніччы і кашульцы з надпісам „Басовішча”. Усё пачалося зноў роўна а восьмай. Ажно дзіва брала на такую пунктуальнасць...

Пачалі працавітыя хлопцы з „Грамады”. Публіка завыла і дала сабе волю. Гуляй душа... Дах над пляцовачкай рыпеў і трымцеў ад жаху, але ж стрываў да канца.

Потым была Кася Камоцкая. Цудоўная, неверагодная... Людзі папрысядалі на падлозе, пазапальвалі свечкі... Божа, забяры маё жыццё, уратуй маю Айчыну... Мне, як большасці прысутных на канцэрце, давялося слухаць Касю ўпершыню. І душа мая насыцілася салодкім дурманам-атрутай, і над сэрцам маім учыніўся здзек...

Адзін з басаўскіх эмігрантаў падараваў Касі нейкую дужа заходнюю куртку, спрабуючы прыдабрыцца... Я, было, памкнуўся аддаць ёй тыя амерыканскія боты, але ж ніяк не змог знайсці таго эмігранта Валіка С. Нешта мне намазолілі душу яны, тыя эмігранты ў Барыку...

Спадарыня Вольга Цярэшчанка з Гомеля, якую год назад я ўбачыў і паслухаў у Грыгішках пад Вільняй, не падманула маіх спадзяванняў. „Зараз вы пачуеце нешта цудоўнае”, — анансаваў Вольгу Сяржук Сокалаў-Воюш, які ў той момант пераняў канферанс на „Басовішчы”. І сапраўды. Высокі адшліфаваны голас, старанна падабраныя тэксты. Зорка. Басаўцы скамянелі ад захаплення.

А сэрца маё поўнілася Касяй...

Бардаўскую частку другога дня „Басовішча” закончыў Алесь Камоцкі. Фестываль дасягнуў нечуваных вышыняў...

Але гэта было далёка не ўсё!

Фелікс Аксёнцаў прачытаў сваім трагічным голасам кавалак пра чайкі, якія лёталі туды-сюды над галавою дублінскага Уліса — Леапольда Блюма. І на сцэну выйшаў мінскі „Уліс”... Раптам зрабілася цесна ў Барыку. Пачалася нейкая фантасмагорыя пад гарадоцкім небам. Гэта „Бесовішча”, акрэсліў тое, што дзеялася на сцэне і сярод публікі, мінскі пісьменнік Уладзімір Арлоў. Фактычна, гэтага нельга апісаць пяром. Агульнае шаленства. Публіка „завялася” з першай песні і трывала ў экстазе да апошняй. А хлопцы давалі жару, атручваючы юныя душы разбуральным, радыкальным, экстрэмісцкім, урбаністычным, старажытным рокам...

Трохі перадышкі, і на сцэну выйшла „Мроя”. Трэба было не абы-якой вытрымкі, каб разбавіць атруту „Уліса” і падсыпаць сваёй. Але „Мроі” гэта ўдалося. Хлопцы зайгралі канцэрт, як у гіпнатычным трансе. Мяне асабіста ашаламілі сваімі сцэнічнымі магчымасцямі вакаліст і клавішнік гурта Лявон Вольскі, раз драпежны і напорысты, раз іранічна-лірычны і сарамяжлівы... „Мроя” поўнасцю выявіла свае каласальныя магчымасці і пасеяла ў душах беластоцкіх рок-фанаў зерне раздвоенасці: „Уліс” ці „Мроя”?













Дзяўчаты з БАС у той вечар панадрывалі сабе горлы. Для іх свет сышоўся на Сяржуку Краўчанку з „Уліса”...

Мурашкі мне бегалі па спіне ад страху, калі трэба было падыйсці да мікрафона і сказаць усім дабранач, да наступнага „Басовішча”...

Нейк абышлося, публіка растапілася ў начным цемрыве, тэхнікі пачалі звіваць кабелі...

Ууух!

Ян МАКСІМЮК

Ніва № 32 (1787), 12 жніўня 1990 г.

# Орлю наведваюць жыхары Ізраіля

Трынаццацігадовае супрацоўніцтва з рэдакцыяй „Нівы" зацікавіла мяне гісторыяй Орлі, гісторыяй мясцовых людзей і заахвоціла да яе захавання. З запісаных мною ўспамінаў карыстаюцца асобы з замежжа, у якіх арлянскія карані.





**З Орлі ў Ізраіль**

У канцы міжваеннага перыяду, магчыма, што перад вялікім пажарам Орлі 18 мая 1938 года, а магчыма, што і пасля яго, нешматлікія арлянскія жыды выязджалі ў Палесціну. Мабыць, яшчэ не прадчувалі выбуху Другой сусветнай вайны, жылося ім тут аднасна добра. Выехаўшы адсюль, выжылі, але зусім страцілі кантакт са сваімі сем'ямі і загубілі весткі пра іх, пра тых сямейнікаў, якія асталіся ў Орлі. Вартае ўвагі тое, што пакінуўшыя тады Орлю жыды пазней, у Ізраілі, штогадова сустракаліся.

**Цікавасць да арлянскіх каранёў**

Хаця ад заваршэння вайны мінула ўжо 74 гады, то Орлю ўсё наведваюць нашчадкі пакінуўшых яе жыдоў; некаторыя з іх нават ведаюць польскую мову, вывучаную ад бацькоў. У Орлі цікавяцца каранямі сваіх продкаў, дaведваюцца пра сінагогу і кіркут. І пастаянна ставяць пытанні, ці нехта з мясцовых жыдоў выжыў у час вайны. Ці вярнуліся тыя, якіх вывезлі...

Кароткая пабыўка ў Орлі вельмі важная ім. Едуць сюды не як звычайныя турысты, але едуць у месца пражывання сваіх продкаў. Цягам чатырох стагоддзяў Орлю насяляла яўрэйская грамадскасць, якая цягам звыш двух стагоддзяў складала тут большасць насельніцтва.

**Сям'я з Ізраіля наведала Орлю**

У верасні 2017 года і 6 чэрвеня сёлета Орлю наведала спадарства Ліля і Гія Эдэльман з Ізраіля — апошнім разам з чацвёркай сваіх дзяцей. У Орлі сустрэлі іх Марк Хмялеўскі і я. Госці атрымалі ад нас памятныя сувеніры, м.інш. маю кніжку „Орля. Сапраўдныя гісторыі" ды кніжку ад Марка Хмялеўскага. Мы ўдваіх расказвалі пра арлянскіх жыдоў, адказвалі на пытанні. На іўрыт перакладала спадарыня Ліля.

Спадарыня Ліля Эдэльман расказала пра сваю сям'ю; на польскай мове, якую вывучыла ад маці:

— Мой муж нарадзіўся ў 1941 годзе ў кібуцы на тэрыторыі сённяшняга Ізраіля. Ягоны бацька Мордэхай Эдэльман быў з Орлі, прыехаў у Палесціну калі было яму 25 гадоў. У кібуцы сустрэў будучую жонку Нахаму, якой сям'я жыве ў Ізраілі з 1806 года; зараз гэта вялікая сям'я.

Пасля выезду з Орлі Мордэхай не меў кантакту з арлянскімі сямейнікамі, бо была вайна. У Орлі асталіся ягоныя бацька, маці і чатыры сястры з дзяцьмі. Загінулі невядома дзе, калі і як. Мужаў бацька памёр ад сардэчнага прыступу, калі Гію было пятнаццаць гадоў, і муж амаль нічога пра ягоную сям'ю не ведаў.

Калі мы ўпершыню прыехалі ў Польшчу, у Орлю, у верасні 2017 года, бо ведалі, што мужаў бацька з Орлі, але пра мясцовасць не ведалі нічога. Калі прыехалі сюды, пад сінагогу, пад тадышні Гмінны асяродкак культуры, пазванілі пад дадзены нам нумар тэлефона, але ніхто не адазваўся. Тады пашукалі Гмінную ўправу і сустрэлі вас (Анну Несцярук і мяне — М. М.). А пра Орлю нічога не ведалі — што тут сінагога, што жыло тут столькі жыдоў...

І пасля падумалі, што трэба сюды прыехаць яшчэ раз са сваімі дзяцьмі. Бо гэта незвычайная падзея, якая здараецца толькі раз у жыцці. Мы вельмі ўсхваляваныя. Прыехалі з намі тры дачкі і сын. Мужаў бацька выехаў у Палесціну і нічога не ведаў пра лёс пакінутых сямейнікаў...

Я знайшоў у дакументах, што ў 1928 годзе ў Орлі браты па прозвішчы Эдэльман мелі фарбавальню.

Госці ставяць пытанні: Ці хтось з мясцовых жыдоў выжыў? Ці хто з вывезеных вярнуўся? Гэта складаныя пытанні, якія патрабуюць няпростых адказаў. Спадарства Эдэльман даведаюцца больш з маёй чарговай кнігі, якую я рыхтую да друку.

Спадарыня Ліля Эдэльман расказала і пра свае карані:

— Мая мама Эстэр з Лодзі, з сям'і Тыгер; бацькі мелі вялікую футравую краму. Перад Другой сусветнай вайной мама прыехала ў Палесціну, сустрэла будучага мужа, з Беластока, і там асталася. Мая старэйшая сястра нарадзілася ў сакавіку 1938 года і дзедкі з Польшчы прыехалі яе пабачыць. Сказалі яны, што ў Палесціне нічога няма, краіна невыносная, гарачыня... Намаўлялі вярнуцца ў Польшчу, абяцалі ўладзіць. А мой бацька сказаў маме: «Калі хочаш, то едзь, а я астануся тут». І мама асталася.

А пасля ўспыхнула вайна і мама нічога не ведала пра тое, што адбываецца ў Польшчы. Пасля вайны даведалася, што толькі адна ейная сястра выжыла. І пасля вайны прыехала ў Ізраіль з мужам і сынам. І пра яе сям'ю я нічога не ведаю. Ведаю толькі імёны дзедкаў: Ёсаль і Мір'ям, ды маміных сясцёр: Дока, Люся і Ганка. Была вялікая сям'я — 80 асоб, а выжыла толькі адна маміна сястра і двое сваякоў.

Мой бацька быў з Беластока. Прыехаў у Палесціну, а ў Беластоку асталася ягоная сястра з дзецьмі — усе яны загінулі. І ў Беластоку ніхто не астаўся. Таму нам вельмі важна трымаць кантакт, каб мы маглі кантактавацца з вамі (Маркам Хмялеўскім і мною — М. М.). Але муж пытае, ці можа гэта адбывацца на англійскай мове.

Мая мама заўсёды мне расказвала аб Лодзі і як добра там жылося. Яна вельмі тужыла, па культуры, па ўсім. А там, у Ізраілі, размаўляла з намі па-польску, каб мы маглі размаўляць з бабуляй і дзядулем. Але яны не прыехалі, не было з кім размаўляць. Але нешта ў памяці асталося, крыху магу папольску. А ў Ізраілі не маю нагоды размаўляць на польскай мове.

Спадарыня Ліля цалкам добра размаўляе па-польску, кожны з ёю дагаворыцца. Часам не хапае некаторых слоў, але, падумаўшы, падбярэ падобнае. У Лодзі пайшлі пад родны дом мамы, зрабілі здымак; і столькі.

У памятнай кнізе ў сінагозе спадарыня Ліля Эдэльман запісала ў іўрыце: „Мы вельмі шчаслівыя, што былі тут, дзе нарадзіўся наш бацька і дзедка ў 1909 годзе, прыбыў у Ізраіль у 1929 годзе і сустрэў там будучую жонку з Іерусаліма. Загінулі тут у вайну". І падпісала імёнамі ўсіх, што наведалі Орлю.

Дзякуючы веданню польскай мовы маглі мы дагаварыцца:

— У вас станоўчыя захапленні, — сказалі нам. — І калі будзеце нешта ведаць пра жыдоў, то паведамляйце мне. Мой муж кажа, што цяпер вы становіцеся нашымі сямейнікамі.

* * *

Пошук жыдоўскіх продкаў у Орлі зараз немагчымы, а мог быць даступны. Вось у снежні 1992 года сваю сядзібу мяняла школа. У старым школьным будынку быў вялікі архіў школьных дакументаў, у тым ліку і „Nazewnictwo osobowe Publicznej Szkoły Powszechnej w Orli" з міжваеннага перыяду. У час пераносу ў новы будынак знайшоўся нехта, хто прыбраў сабе арыгінальныя школьныя дзённікі; магчыма, што з добрым намерам. Пасля тыя школьныя дакументы памянялі ўладальніка, а спадар Марк Хмялеўскі кажа, што калісь бачыў іх у пакойнага а. Рыгора Сасны. Размаўляў я з дырэктар арлянскай школы і мяркую, што тыя школьныя дакументы знойдуцца. Пра гэта я буду пісаць у „Ніву".

**Міхал МІНЦЭВІЧ**
Фота Марка ХМЯЛЕЎСКАГА

## Дваццаць два гады з „Вяргіняй"

Малгажата і Андрэй Галёнкі маюць свой кветкавы магазін „Вяргіня" ў Бельску-Падляшскім па вуліцы Адама Міцкевіча, 108. Сюды прыходзіць многа наведвальнікаў, перш-наперш жанчын. Яны маюць прыгожыя вазоны ў сваіх кватэрах круглы год. Кветкі радуюць зрок сваёй прыгажосцю, вабяць колерам. У спадарыні Малгосі вельмі часта заказваюць вясельныя кветкавыя букеты, бо яны ў яе найпрыгажэйшыя (перш-наперш з белымі кветкамі казяльцу).

Спадарыня Малгося вядзе свой кветкавы магазін 22 гады. Яна сказала мне, што вельмі любіць кветкі. У горадзе сем кветкавых магазінаў, між іншым, „Язмін" і „Лотас". У іх перш за ўсё жанчыны маюць для сябе працу.

Кветак у яе прыгожым магазіне ёсць сама менш дзесяць відаў. Тут ружы (тры колеры), гваздзікі, герберы, бягоніі, фрэзіі, ятрышнікі, маргарыткі, ліліі, экзатычнае антурыюм і іншыя цудоўныя расліны. Ёсць у продажы жывыя і штучныя кветкі. Тут можна купіць гатовыя або на заказ вялікія вянкі і букеты кветак з упрыгажэннем. Магазін працуе ад гадзіны 8 да 18. Бельскай кветачніцы свежыя кветкі прывозяць, між іншым, з біржы. **(яц)**

## Цётка Надзя

Пазнаёміліся мы ў шасцідзясятыя гады, калі заязджалі ў Малiннікі з кінапрасоўкай. Пасябраваў я з яе сынам Мікалаем, які працаваў у радыё-тэлевізійнай майстэрні ГС у Кляшчэлях. Была тады жыццярадаснай кабетай, харысткай царкоўнага хору, вядомай у Арлянскай гміне пявунняй. Гаворка ідзе, разумеецца, аб Надзеі Сахарчук, або, як аднавяскоўцы клічуць, цётцы Надзі. Зараз цётка Надзя лічыцца самай старэйшай у сяле. У верасні споўніцца ёй дзевяноста шэсць гадоў. З таго, што мне сказала ў час нядаўняй размовы па тэлефоне, дык яшчэ ў агародчыку займаецца, прапале трускалкі і бульбу. У сусек дровы закіне ды паскладае ў радочак.

— Цяжка прыходзіцца старэчы, — наракала. — Ногі не слухаюцца. Але, што зробіш. Такі мой лёс...

У цёткі Надзі два сыны. Абодва, як кажа, хваравітыя. Мацярынскае сэрца не дазваляе пакрыўдзіць свайго дзіцяці. Толькі, чаму дзеткі не спагадаюць у цяжкай долі сваёй маці?..

**(УС)**

## Дэмаграфія Мілейчыцкай гміны

У Мілейчыцкай гміне Сямятыцкага павета шчыльнасць насельніцтва складае 12 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 115 жанчын. У 2017 годзе ў гміне пражывала 1999 чалавек у 21 мясцовасці. У 2012 годзе ў гміне было 2015 асоб. Зараз Мілейчыцкая гміна налічвае 1862 чалавекі. Найбольшыя вёскі ў гміне: Мілейчычы — яна налічвае 769 жыхароў, Паканева — 165, Валкі — 124, Паканева-Калёнія і Сабятына — па 105 ды Рагачы — 89 чалавек.

Ад трыццаці да васьмідзесяці жыхароў налічваюць вёскі Харашчэва — 72, Харашчэва-Калёнія — 68, Навасёлкі — 58, Мікулічы — 48, Клімковічы — 42, Левашы і Мядзвежыкі — па 34, Грабарка — 32, Белкі — 29 і Баравікі — 27. Самыя малыя вёсачкі гэта Ялтушчыкі — усяго 7 жыхароў, Касцюковічы — 10, Ханькі — 12, Галубоўшчына — 15 і Любейкі — 21.

Паменшала жыхароў, між іншым, у Мілейчычах, Белках, Грабарцы, Левашах, Паканеве, Паканеве-Калёніі, Валках, Клімковічах, Рагачах, Харашчэве і Ханьках. Пабольшала толькі ў Навасёлках — на аднаго чалавека.

У вёсцы Мядзвежыкі Мілейчыцкай гміны жыве стагадовая Тацццяна Гуль. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Сем турыстычных цудаў Нараўчанскай гміны













1. **Пансіянат «Бора-Здруй»** — гасцініца спадарства Людмілы і Барыса Казлоўскіх. Ён распаложаны на чароўным хутары каля Новага Ляўкова. Варта там заехаць, каб з'есці хатнія варэнікі з чарніцамі. Тут знаходзіцца макет неіснуючага ўжо Царскага палаца ў Белавежы, Бурштынавы пакой і этнаграфічны музей у клуні.
2. **Семяноўскае вадасховішча** — месца, з якім звязаныя сумныя гісторыі пра перасяленне людзей з родных вёсак. Сёння людзі прыязджаюць адпачываць, займацца рыбалкай, а арнітолагі назіраюць за шматлікімі відамі птушак.
3. **Старое Масева** — вёска на мяжы з Беларуссю, вядомая з-за старых драўляных хат, у якіх жывуць прыезджыя і мясцовыя людзі. Тут сустрэнеце драўляныя «жураўлі» каля студняў і стары нямецкі могільнік.
4. **Царква св. Юр'я ў Семняноўцы** — пабудаваная пад канец 18 ст. Каля будынка царквы стаіць стары крыж у выглядзе сонца. Варта зайсці ўсярэдзіну ды паглядзець іконы народнага мастака Мароза. Непадалёк знаходзіцца экалагічны «Шлях зубра», тут можна пабачыць зуброў, аленяў, ваўкоў.
5. **Кіркут** — яўрэйскі могільнік на гары непадалёк Нараўкі. На помніках — мацэвах — выдавочныя інскрыпцыі, у якіх праслаўлены таленты і рысы характару нябожчыка. Надпісы на габрэйскай мове, якія можна перакласці з дапамогай перакладчыка на смартфоне.
6. **Галерэя імя Тамары Саланевіч** — першая, вясковая мастацкая галерэя на Падляшшы. Зараз там працуе фотавыстаўка аўтарства Якуба Смольскага з Лукі і прэзентуюцца працы ўдзельнікаў штогадовага мастацкага пленэру, які праходзіць у Нараўцы. У асобнай зале экспануюцца этнаграфічныя цікавіны з тэрыторыі гміны. Пра ўсё каларытна раскажа гаспадыня галерэі, якая памятае мясцовую гаворку.
7. **Царква свсв. Пятра і Паўла ў Старым Ляўкове** — драўляная будоўля 1574 года, найстарэйшая ў наваколлі. Асабліва ўрачыста адзначаюць тут 12 ліпеня, прыхадское свята ў гонар слаўных патронаў. У гэты дзень часта ладзяць беларускі фэст.

**Габрыся Вільдовіч,**
«Бел-News»

## УВАГА КОНКУРС!
## № 29-19

**Каля бруха завіруха,**
**каля дзірачкі кірмаш.**
(В.... і пчолы)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 4 жніўня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

**Адаз на загадку № 25: пальцы. У гэты раз не было правільных адказаў.**

# Сустрачанскі апытальнік

## Яўген Вапа — галоўны рэдактар «Нівы», кіраўнік Радыё Рацыя.

**1. Сустрэчы «Зоркі» гэта для Вас:**

— Час радасці.

**2. Любімае слова на беларускай мове:**

— «Напэўна».

**3. Найпрыгажэйшае месца на свеце:**

— Вёска Доўгі Брод.

**4. Галоўнае правіла журналіста:**

— Адказнасць, адвага.

**5. Найцяжэйшая праца для вас гэта:**

— Рабіць тэхнічныя рамонты.

**7. Што Вас натхняе:**

— Усё навокал.

(Апытальнік правялі журналісты рэдакцыі «Бел-News»)



Мелодыя да песні „Сустрачанская песня"

## Трактарам да Берліна!

*(сустрачанская песня)*

На Сустрэчы «Зоркі» мы зноў завіталі,
Каб спаткацца разам — цэлы год чакалі.

Прыпеў:
*Гэй, Бора-Здруй! Файная мясціна,*
*Трактарам паедзем мы аж да Берліна.*

Спадарыня Ганна цёпла нас вітае,
А спадар Барыс пад свой дах прымае.

Прыпеў:

Мы ў сваіх пакоях не адпачываем,
Бо мы ў святліцы пішам і спяваем,

Прыпеў:

Да нас прыязджаюць знакаміты госці,
І мы пра іх пішам эсэ, ньюсы, посты.

Прыпеў:

Нас за год не будзе, а песня застане,
Бо гэтая песня напісана на расстанне.

Прыпеў:

**Музыка і тэкст:** ***Вікторыя Гаць і Паўліна Ёдла***

# Дзённік Сустрэч «Зоркі» (3)

10 чэрвень, панядзелак, гадзіна 17:30

Героямі чарговай сустрэчы былі нашы сустрачанскія сяброўкі з настаўніцай і журналістка Уля Шубзда. Яны стварылі ў сваёй школе ў Залуках журналісцкі гурток. Ужо ў першы год існавання ім удалося паехаць на экскурсію ў беларускую Гародню.

Думаю, што гэта вельмі файная і добрая ідэя. У кожнай школе павінен існаваць такі гурток.

(працяг будзе)

Ева Іванюк, Галоўны рэдактар «Бел-News»

## Лісты з ньюсам

**ДАРАЖЭНЬКАЯ, ПРЫВІТАННЕ!**

Я на XXXIII Сустрэчах «Зоркі» ў Новым Ляўкове. Гэта журналісцкія майстар-класы, якія ладзіць рэдакцыя «Нівы» ўжо дваццаць чатыры гады. Я тут упершыню, таму першы раз размаўляла з рэдактар «Зоркі» Ганнай Кандрацюк. Я вельмі цешуся, што магла з ёю пазнаёміцца. Мы жывем у вельмі прыгожым і ціхім месцы, што ў Лядскай пушчы. А яда тут — проста казка! Усё, што рыхтуюць нам гаспадары, смачнае. Ужо ў першы дзень я шмат працавала, між іншым, запісала для Радыё Беласток інтэрв'ю са спадарыняй Ганнай.

Тут у мяне многа новых сяброў. Не магу дачакацца заўтрашняй экскурсіі па Нараўчанскай гміне...

Вітаю цябе,

**Оля Корч,** «Бел-News»

# Польска-беларуская крыжаванка № 29-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 25-2019:** Лявон Вольскі.



# Пра першых гайнавян

**У Гарадской публічнай бібліятэцы імя доктара Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы 26 чэрвеня адбылася прамоцыя цікавай кнігі-альбома «Белавежская пушча і першыя гайнавяне. Суседства вечнае», якую выдалі супольна Гайнаўская гарадская бібліятэка і Аб'яднанне нашчадкаў першых гайнавян.**



■ Міраслава Піваварчык (побач яе сядзіць бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак)



Пра першых гайнавян і жыхароў Гайнаўкі пазнейшых перыядаў распавялі рэдактаркі выдання — дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы Ала Грыц і старшыня Аб'яднання нашчадкаў першых гайнавян Міраслава Піваварчык, якая напісала тэкст і падабрала фатаграфіі для кнігі-альбома. Дырэктар гарадской бібліятэкі Ала Грыц прывітала ўдзельнікаў прамоцыі, у тым ліку бургамістра Гайнаўкі Ежы Сірака, гарадскіх радных і дырэктар Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы Аліну Пятрашак, якая зрабіла карэктуру кнігі.

— Дзяды і прадзеды сённяшніх жыхароў стваралі гісторыю Гайнаўкі. У кнізе-альбоме змешчана многа цікавых здымкаў і інфармацыі па гісторыі нашага горада. Вялікую вартасць прадстаўляюць фатаграфіі, якія паказваюць сямейнае жыццё, адпачынак і працу жыхароў Гайнаўкі ў мінулым, у непасрэдным суседстве Белавежскай пушчы. Трымаючы ў руках кнігу можна будзе задумацца над гісторыяй нашага горада, якая момантамі была трагічная, але ў цэлым разнародная і цікавая. Апісана ў кнізе навейшая гісторыя Белавежскай пушчы, паказаны ляснічыя і іншыя асобы, якія займаліся лясной гаспадаркай і аховай пушчы. У кнізе знаходзім фатаграфіі сямейнікаў, знаёмых і радуемся, што іх распазналі, — сказала Ала Грыц.

Нядаўна Гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы адзначала 70-годдзе дзейнасці, якая непасрэдна звязана з гісторыяй Гайнаўкі.

— Змешчаныя ў кнізе фатаграфіі і сённяшні выгляд горада сведчаць, як моцна памянялася Гайнаўка. Часам не ведаем, дзе знаходзяцца некаторыя месцы бачныя на здымках. У кнізе мноства фатаграфій, якія дакументуюць вельмі важную нам гісторыю Гайнаўкі, — сказаў бургамістр Ежы Сірак.

Бургамістр паінфармаваў, што рыхтуецца чарговая кніга аб гісторыі Гайнаўкі Рышарда Патэра і кніга марафонца з Гайнаўкі Аляксандра Пракапюка, які прыдумаў і супольна з гарадскімі ўладамі арганізуе ў Гайнаўцы вядомы ў Польшчы паўмарафон. Былы дырэктар Пачатковай школы № 5 у Гайнаўцы Леанард Кульваноўскі таксама плануе выдаць кніжку аб гісторыі сваёй школы. Дырэктар Пачатковай школы № 1 у Гайнаўцы Аліна Пятрашак заклікала гайнавян дапамагчы школе інфармацыямі і фатаграфіямі з яе мінулага, паколькі плануе разам з настаўнікамі і з дапамогай бацькоў і вучняў сабраць матэрыялы па гісторыі сваёй школы і выдаць у выглядзе кніжкі.

— Ініцыятарам выдання кнігі-альбома «Белавежская пушча і першыя гайнавяне» было заснаванае ў ліпені 2015 года Аб'яднанне нашчадкаў першых гайнавян. Ангажаванасць і дапамога членаў аб'яднання дало магчымасць рэалізаваць задуму, за што я ім вельмі ўдзячна. Веру, што наша кніга зацікавіць гайнавян. Ажно больш за 90 фатаграфій у нашу кнігу перадала Марыя Сухадола з Гайнаўкі. У кнізе распавядаем, між іншым, пра гісторыю «Гайнаўскай аховы», жыхароў сённяшняй вуліцы Ліпавай, якая раней была вёскай Гайнаўка і жыхароў урочышча Казіны Пераскок, які толькі пасля апошняй вайны быў уключаны ў адміністрацыйныя межы вёскі Гайнаўка. Там менавіта найраней сталі жыць жыхары Гайнаўкі. Продкі членаў Аб'яднання нашчадкаў першых гайнавян жылі побач каралеўскіх ахоўнікаў Белавежскай пушчы і як стральцы «Гайнаўскай аховы» займаліся аховай Белавежскай пушчы. Ад выдання першага вядомага нам дакумента, які пацвярджае прысутнасць на месцы Гайнаўкі нашых продкаў, мінула ўжо 226 гадоў. Найстарэйшыя фатаграфіі тычацца другой паловы XIX стагоддзя. На падставе здымкаў можна прасачыць лёс родаў, якія жывуць па сённяшні час у Гайнаўцы, даведацца, якія прафесіі выконвалі людзі ў мінулым, іх значэнне ў грамадстве, але перш за ўсё можна пазнаёміцца з іх сямейнымі гісторыямі, радасцямі і смуткамі, — сказала старшыня Аб'яднання нашчадкаў першых гайнавян Міраслава Піваварчык.

У кнізе-альбоме змешчана карта Гайнаўкі з 1869 года з імёнамі і прозвішчамі тагачасных жыхароў і іх зямельнымі ўчасткамі. У 1869 годзе згодна з указам цара Аляксандра II стральцы «Гайнаўскай аховы» з Гайнаўскага лясніцтва атрымалі на ўласнасць зямельныя ўчасткі плошчай у 16 гектараў на асобу, што дало стральцам самастойнасць і спрычынілася да павышэння іх узроўню жыцця. Іх асноўнай задачай надалей заставалася ахова Белавежскай пушчы, а дадатковымі былі сельскагаспадарчыя работы.

— Найстарэйшы вядомы нам дакумент, які тычыцца Гайнаўкі, паходзіць з 1792 года, а знайшоў яго ў архіве ў Вільні гайнавянін Тамаш Самойлік. Мы выкарысталі чарговасць прозвішчаў змешчаных на карце Гайнаўкі з 1869 года пры размяшчэнні фатаграфій паасобных родаў у нашай кніжцы. Указам цара Аляксандра II надзелена была зямля майму продку Данілу Волчыку на тэрыторыі, на якой паўстала Гайнаўка. З гэтага часу да майго нараджэння пражыло тут пяць пакаленняў Волчыкаў, аб чым я даведалася з архіва Успенскага праваслаўнага прыхода ў Дубінах, да якога калісь належалі жыхары Гайнаўкі (покі пры канцы вайны быў заснаваны Мікалаеўскі праваслаўны прыход у Гайнаўцы, — А. М.). Самыя старыя тры роды, якія прадаўжаюць жыць у Гайнаўцы, гэта роды Каўшылаў, Волчыкаў і Мельцараў. Пазней пасяліліся прадстаўнікі родаў Буйноўскіх, Сідаруковаў, Савіцкіх, Панасюкоў і Кіцэляў, — паінфармавала Міраслава Піваварчык.

У кнізе згадваюцца найстарэйшыя роды гайнаўскіх рамеснікаў — Арэхоўскіх, Мяжвінскіх і Шумскіх, якіх нашчадкі таксама зараз жывуць у Гайнаўцы. З кнігі можна даведацца таксама, што на ўрочышча Скарбаслаўка быў прызначаны ахоўнік па прозвішчы Гайна. Стаў ён працаваць у ахове, якая размяшчалася на месцы сённяшняга Гайнаўскага дома культуры і Асяродка спорту і рэкрэацыі, побач якіх растуць таўшчэзныя дубы. Каля аховы сыходзіліся дарогі з Нарвы і Бельска-Падляшскага, па якіх можна было даехаць у Кляшчэлі і Белавежу. Даследчыкі мінулага Гайнаўкі назву «Гайнаўшчына» знайшлі на карце Падляшскага ваяводства з 1795 года. У гэтым часе паяўляецца назва «Гайнаўская ахова». Калі Белавежская пушча пасля падзелаў Польшчы была ў межах Расійскай імперыі, стала паяўляцца назва Гайнаўка. Пушчанская мясцовасць стала прамысловым цэнтрам падчас Першай сусветнай вайны, калі сталі ўзводзіць дрэваапрацоўчыя заводы. У пазнейшых перыядах Гайнаўка разрастаецца. Сямідзесятыя і васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя гэта перыяд самага буйнога развіцця дрэваапрацоўчай прамысловасці ў горадзе, якая стала згортвацца ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя.

— Я таксама з роду Волчыкаў. Мае продкі перасяліліся з Гайнаўкі ў Дубіны. Цікава было ўспамінаць аб мінулым нашых родаў і Гайнаўкі, — стала расказваць Раіса Кот, у мінулым дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Дубінах.

— Я з роду Каўшылаў. Мой дзядуля пайшоў у прыступы. Я выхоўвалася ўжо ў Агародніках каля Бельска, у сям'і Стральчукоў. Аднак так склалася, што ўсё абышло круг і зараз мне прыйшлося жыць у Гайнаўцы, дзе я вучылася ў сярэдняй школе, займалася спортам. Заснавалі мы Аб'яднанне нашчадкаў першых гайнавян, якое дапамагло падрыхтаваць і выдаць кнігу «Белавежская пушча і першыя гайнавяне». У кнізе знаходзіцца фатаграфія, якую мне выканалі, калі я была яшчэ дзіцём, здымкі з маімі сямейнікамі і сваякамі з роду Каўшылаў. Мінулае Гайнаўкі — нядоўгае, але вельмі цікавае нам, гайнавянам, — сказала Людміла Заброцкая з Гайнаўкі.

Тоўстая кніга-альбом «Белавежская пушча і першыя гайнавяне», у якой 432 старонкі, выдадзена пры фінансавай падтрымцы бюджэту горада Гайнаўка, Старасства Гайнаўскага павета і іншых спонсараў ды прыватных асоб. Пасля сустрэчы аўтарка тэкстаў для кнігі Міраслава Піваварчык падпісвала яе ўдзельнікам сустрэчы ў бібліятэцы.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**




## Маё жыццё

Жыву я ў вёсцы Плянта,
Ужо паўвека, бо пяцьдзесят трэці год.
Было многа падзей кепскіх,
Было шмат і добрых нагод.

У гэту вёску замуж я прыйшла,
Цяжка было спачатку,
Бо трэба было ад міскі і лыжкі пачынаць,
Каб усё жыццё было ў парадку.

Дзяцей чацвёра мела.
Колькі начэй трэба было недаспаць!
Мужыку раскошы захацелася:
Пайшоў у свет жыцця лепшага сабе шукаць.

Гады ішлі, падрасталі дзеці,
Трэба было шукаць работу, ісці працаваць,
Старацца, каб у хаце быў дастатак,
Каб не прыйшлося з дзецьмі галадаць.

Цяпер пенсію я прычакала,
Часу многа маю.
Але што ж — у старасці ўсё баліць...
А аб маладосці я толькі ўспамінаю.

## Соты год волі

Гэта год успамінаў,
Хто загінуў, астаўся там, а хто без весці загінуў.

Помніце і скланіце галаву
Перад тымі, што загінулі.
Нашы дзядулі, мужыкі, жонкі,
Сёстры, браты і невінаватыя дзеці.
Людзі, якія змагаліся за радзіму,
За мірнае неба над галавою.

Прайшлі гады, зажылі раны,
Цяпер спакойна жывецца нам.
Стаіць у хаце калыска, ураджайна ў полі.
Не забудзьце, што ўжо соты год волі.

Дзеці спакойна вучацца ў школе.
Дзядулі раскажуць сваім унукам,
Што здарылася даўно,
Што сябры вашай вясны
Не вярнуліся ніколі.
Не забудзьце, што гэта соты год волі.

## Сорак гадоў калектыву «Нараўчанкі»

Былі маладымі, прыгожымі жанчынамі,
Свой лёс звязалі з песняю.

Змоладу цяжка працавалі, дзяцей гадавалі,
Мужыкоў трэба было ўгаварыць,
Каб не злаваліся, каб з добрым гумарам
Пасля канцэрта ў хаце сустракалі.

На канцэрты часта ездзілі,
У іх душах звінела песня,
Бо ад песні святлее душа.

Не быў страшны холад,
Ні сцюжы зімою,
Бо песні заўсёды вазілі з сабою.

Дзяцей пагадавалі, пажанілі,
Унукаў дачакаліся.
А песні ніяк не зракаліся.

І так з песняю дайшлі да саракагоддзя.
Юбілей прыгожы.
Каб доўга не зышлі са сцэны –
Гэтага дай ім, Божа.


**Галіна БІРЫЦКАЯ**
Плянта, Нараўчанская гміна


**Ян ДАМБРОЎСКІ**
Беласток

## Драўляныя буслы

Спачатку было дрэва, цяпер стоўб стаіць,
а на ім бусел з жонкай сядзіць.
Са стаўба мужчыны не зробіш,
калі яму што-небудзь мужское прыробіш.
Драўляныя буслы ўвесь год сядзяць,
у цёплыя краіны не паляцяць.
А ты, Зіначка, увосень буслоў згані,
яны ў Афрыку ляцець павінны.
Вясной вернуцца яны ў свой бацькоўскі кут,
табе дзіцятка прынясуць.
А і Шура больш будзе рад,
калі буслы вернуцца назад.
Яны добрую працу зрабілі за яго,
а ў сям'і дзіцятка прыбыло!

## На Ліяша

На Ліяша радзілася,
горэ ж маё, горэ.
Не пайду я за старога –
барадою коле.
Не пайшла я за старога,
выйшла за Іванка.
Ён іграе і спявае
з вячора да ранка.
Ён іграе і спявае,
у «Бядронку» ходзіць,
за вачамі, за губамі
Любінымі водзіць.
Дзісь вялікае ў нас свята,
уся сям'я сабралась.
Усе жадалі ёй здароўя,
Люба ўсміхалась.
Будзем есці, будзем піці,
Не будзем плакаці.
І з дочкамі, і з унукамі
будземо спяваці,
«Сто лет, сто лет, сто лет, сто лет»
будземо спяваці,
будзем табе, Люба міла,
шчасця век жадаці,
каб радзілі табе дыні,
і капуста тожа,
каб увесну на гародзе
было ўсё прыгожа.
Не хачу судзьбу другую,
добра з Любай нам.
Божа, дай нам шчэ пажыці,
шчасця дай унукам.
Не хачу судзьбу другую,
добра з Любай нам.
І праўнука дачакаці
добра было б нам.
А вы, унукі, ужо жанецесь,
вяселле выправім вам!

## Чорная хмара

Ранняю вясною зязюля кукавала,
дзяўчына пра вяселле ў пташыны гадала.
Красавала поле, збожжам хвалявала,
хлопцы вечарам спявалі, дзеўкі памагалі.
Вёска Райск спакойна ў зелені стаяла,
і не знала што ёй доля сумна прыпадала.
Узброеныя немцы раніцай улетку
акружылі ўсё сяло, сталі ад палеткаў
фашысты з сабакамі увесь народ сагналі,
катавалі мужыкоў, бандай называлі.
16 чэрвеня прыгавор чыталі,
сто сорак дзевяць чалавек з Райска расстралялі.
Падпалілі вёску, чорна хмара стала,
толькі белая царква на ўзгорку ўстаяла.
Загад гітлераўцаў: царкву разваліці,
бо на райскай зямлі век не будуць жыці.
Там брацка магіла і растуць дубочкі,
там вясною салавей спявае цэлыя ночкі.
Увесь свет жадае міру, гэта ўсіх нас мары,
каб ніхто ў жыцці не ўбачыў райскай чорнай хмары.

## Райск наша вёска

Райск, наша вёска, як ты мне міла.
Я тут радзілася, расла,
я тут гуляла, я тут любіла.
Мама навучыла роднае мовы,
казала бліжняга любіць.
Вайна сусветная тут усё змяніла,
і мне прыйшлося іначай жыць.
Фашысты бацьку мне забілі,
родную вёску спалілі,
па чужых хатах я скіталася,
пазнала гора і бяду.
Увайду я на гару крутую,
і падзіўлюся на родны край:
сяло роднае гарыць,
гарыць бацькоўскі дом.
За Райскам я так сумавала,
хоць яго нават не было,
сяло яшчэ дагарала,
з зямлёю зраўнялі яго.
Мама сама ўсё адбудавала
і мы вярнуліся ў родны кут.
Жывем тут небагата,
жывем усё ж шчаслівa тут.

## Сусед маёр

Мой сусед, маёр «бяспекі»
знаны мне не ад учора,
часта косіць панадворак.
У яго ўсё схлюдна, чыста,
нездарма служыў камуністам.
Завуць яго Шура Васілюк,
а яго жонку Зіна з дому Паўлючук.
Жывуць яны згодна, чыста,
прысягу складалі ўрачыста.
Адсвяткавалі ўжо «Złote gody",
будуць новыя прыгоды.
Пра буслоў не забываюць,
часта ў вокны спаглядаюць.
Сядзіба ў іх шырока,
не тое што ў суседа за плотам.
Ды касіць ужо не тыя сілы,
бо бліжэй сырой магілы.
На могільніку ўжо помнікі стаяць,
толькі даты паўстаўляць.
Добрыя мае суседзі,
жывіце доўга і шчасліва,
а я буду вершы пісаць за плотам,
а ў вас не будзе ніякіх клапотаў.

# Час на ўспаміны (3)

По матуліных суродзічах з-за ўсходняй мяжы засталіся адно ўспаміны і ўвекавечаны сустрэчы на фатаграфіях чорна-белага колеру. Колькі ім год, хто быў іх аўтарам, цяжка сказаць. На адваротным баку на адной з іх чытаю памятны надпіс:

*Встречи и расставанни*
*две части*
*Из которых когда-нибудь*
*Сложится счастье.*

Гэтыя словы напісаў пляменнік Коля, сын Марыі Панасюк. Нікалай Нікалаевіч, як яго сябры клікалі, пражываў у Камянцы ў жылым корпусе па вуліцы Матросава. Працаваў галоўным інжынерам у Камянецкім МСО (міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі). Жонка, Галіна Міхайлаўна, працавала ў фінансавым аддзеле райвыканкама. У іх была дачушка, на жаль не захавалася ў памяці яе імя. Упершыню наведаў я пляменнікаў у Камянцы ў палове сямідзясятых гадоў. Паколькі раённы Камянец ад прыгранічнай Апакі, Вяраховічаў ці Долбізны адлеглы больш за дваццаць пяць кіламетраў, дык Нікалай «даў мне ў распараджэнне» сваю службовую машыну, каб змог я наведаць суродзічаў у прыгранічнай зоне.

У гэтым часе я працаваў на станцыі ў Чаромсе агентам у канторы перадачы і супрацоўнічаў з агентамі са станцыі Высока-Літоўск. Маім задушэўным сябрам быў Сяргей Арцёмавіч. Выходзіў з Ваўковічаў, што непадалёк станцыі Высока-Літоўск. Едучы з Камянца ў Вяраховічы, я рашыў наведаць сябру па рабоце. Арцёмавіч вельмі спалохаўся, калі пабачыў пад'язджаючы пад дом «міліцэйскі газік» (такімі карысталася дарожная аўтаінспекцыя).Усё выявілася, калі я зайшоў у дом. Сябра пагасцяваў «чым хата багата». Люба, Сяргеева жонка, аказалася сімпатычнай і гаваркой субяседніцай.

— Заязджайце, калі будзеце ў Высокім, — запрашала пры развітанні.

У гэты дзень я наведаў яшчэ братуху Васіля ў Вяраховічах і падаўся ў Апаку да дзядзечкі Косці, а на адвячорку наведаў Марыю ды Танюшу ў Долбізне. На начлег вяртаўся ў Каменец поўны ўражанняў. Пасля гэтай паездкі я запрасіў да сябе Жэню Нікалаеўну і Галіну Міхайлаўну, сястру і жонку пляменніка Нікалая Панасюка.

Чарговы раз я наведаў Камянец пасля некалькіх гадоў. Нікалая Нікалаевіча павысілі ў чыне на рабоце. Ён стаў старшынёй Камянецкага МСО. Ён ужо не карыстаўся службовым «газікам», толькі «Волгай». Пасля яго перавялі ў Брэст. На гэтым нашы кантакты абарваліся.

У пачатках двухтысячнага года я аформіў турыстычную візу на перасяканне мяжы на пагранпераходзе Полаўцы — Пяшчатка ды чыгуначным транспартам праз Чаромху ў Высока-Літоўск. У гэтым часе ўтрымліваў я кантакт з суродзічамі праз пляменніцу Ларысу з сястрыцай Оляй, якая пражывала ў Юўсічах. Па яе рэкамендацыі на Сёмуху мы падаліся на могільнік у Вяраховічах, дзе пакояцца суродзічы нашай матулі. Гэта было 19 чэрвеня 2005 года. На пагранпераходзе Полаўцы — Пяшчатка чакала некалькі польскіх аўтамабіляў. Штодзённыя мурашкі. Пашпартна-мытны кантроль з беларускага боку абмяжаваўся да праштампавання дакументаў. Падаемся ў Юўсічы. Там нас чакалі. Запрашаюць да пачастунку. Знаёмлюся з сястрою швагра Валодзі, якая прыехала з Брэста. З Белаазёрска прыехала дачка Тані, Людка, з дачкою і зяцем. У мінулым годзе пахавала тут бацьку. Сёння прыехала пакланіцца яго праху. Пачастунак спажываем на хаду. Затым падаемся на могільнік у Вяраховічы.

■ Справа налева: дзядзька Косця Селях, сын Аляксандр з жонкай (з Сібіры), далей Марыя, жонка Васіля і Васіль Селях з Вяраховіч

чытайце ☞ 11



Лічыцца, што прафесія бухгалтара ўзнікла за часамі сярэднявечча і паходзіць з нямецкай мовы — трымальнік кніг. У нашы часы без бухгалтарскага ўліку немагчымая ніякая справа, таму бухгалтары вельмі важныя людзі ў эканоміцы кожнай краіны. Аднак не кожны прадпрымальнік, асабліва той, які толькі пачынае ўласную справу, можа аплаціць васьмігадзінную працу бухгалтара. Тады на дапамогу прыходзяць бухгалтары звонку, то-бок тыя, якія прапануюць узяць на аўтсорсінг вядзенне бухгалтарскага ўліку. Фірм, якія спецыялізуюцца на такіх паслугах, у свеце даволі многа, але далёка не кожная прапануе іх па-беларуску. Прынамсі, знайсці ў інтэрнэце сайт бухгалтарскай фірмы на беларускай мове амаль немагчыма. Выключэннем з'яўляецца хіба толькі „БелБухгалтар".

Сайт дадзенай фірмы месціцца па адрасе **https://belbuh.by/by** і пабудаваны з улікам сучасных тэндэнцый у сайтабудаўніцтве. Там няма, як яшчэ дзясятак гадоў таму, дзялення на дзве ці тры часткі выяўлення. Ёсць некалькі выйсцяў на рубрыкі ўверсе галоўнай і ў той жа час адзінай старонкі. Калі клікаеш на іх мышкай, то выява папросту пракручваецца да патрэбнага месца.

„Вызваліце свой час для галоўнага. Мы добра разумеем, што кіраўнік не можа і не павінен выконваць усе функцыі сам. Возьмем на сябе бухгалтэрыю, каб вы засяродзіліся на вядзенні бізнесу, а не выконвалі працу, якую можна даручыць іншым. З БелБухгалтар вы зробіце больш!" — смела сцвярджаецца ў самым версе выяўлення. Крыху ніжэй ідзе рэкламны расповед як адказ на пытанне, каму могуць быць карысныя паслугі дадзенай фірмы. „БелБухгалтар працуе з арганізацыямі ў Мінску і па ўсёй Беларусі. Вы рыхтуеце ежу, робіце манікюр, прадаяце тэлефоны, вырабляеце мэблю ці шыльды — мы працуем у любой сферы. Калі вы толькі пачынаеце, мы можам стаць вашым першым бухгалтарам. Дапаможам з рэгістрацыяй кампаніі і выбарам схемы падаткаабкладання. Растлумачым, як легальна плаціць мінімальную колькасць падаткаў. Калі ж у вас ужо ёсць бухгалтар, але вы па нейкіх прычынах вырашылі яго змяніць ці перадаць частку працы на аўтсорсінг, — акуратна прымем базу, правядзем аналіз і адновім вядзенне ўліку", — гаворыцца там.

Праўда, не ўсё ўдалося зрабіць акуратна на сайце. Так, шмат дзе мы можам убачыць адрукоўкі, якія сведчаць аб не вельмі дбайным стаўленні да беларускамоўнай версіі. Напрыклад, у назве рубрыкі „Што мы робім" напісана „Что мы робім", у назве рубрыкі „Спецыяльныя прапановы" — „Специяльные прапановы", у назве рубрыкі „Як перайсці" — „Як перайці". Гэта, канешне, дробязі, але яны ствараюць не надта прыемнае ўражанне.

У той жа час прыемна, што некаторым бухгалтарам у Беларусі не чужая беларуская мова і яны могуць па-беларуску здаць справаздачнасць дакладна ў час і без памылак, разблакаваць рахунак і аднавіць вядзенне ўліку пры неабходнасці, дапамагчы бяспечна знізіць падатковыя плацяжы, падрыхтаваць усю дакументацыю для атрымання пазык і крэдытаў, скласці дамовы і запоўніць дакументы, падрыхтаваць дакументацыю для ліквідацыі прадпрыемства. Кошты на бухгалтарскія паслугі падаюцца ў рубрыцы „Колькі каштуе БелБухгалтар".

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

## 105 гадоў з дня нараджэння
# Вітаўта Рамука

Беларускі грамадскі дзеяч, прадстаўнік беларускай дыяспары ў ЗША Вітаўт Рамук нарадзіўся 15 ліпеня 1914 г. у Екацярынаславе (цяпер горад Дніпро, Украіна). Бацькі тады знаходзіліся там на заробках. У 1922 г. сям'я Рамукоў вярнулася на радзіму ў Заходнюю Беларусь, пасяліўшыся ў мястэчку Ліпнішкі (цяпер гэта Іўеўскі раён). У 1926-1930 гг. Вітаўт Рамук навучаўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Яго настаўніцай там была вядомая Алёна Сакалова-Лекант, якая дваццаць пяць гадоў вучыла ў гімназіі беларускай мове. Пасля гімназіі Рамук паступіў на навучанне ў Пінск у польскую гімназію, меў намер стаць святаром, але пазней адмовіўся ад гэтага.

Вітаўт Рамук паступіў на біялагічны факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. Праз год перавёўся на медыцынскі факультэт. Аднак пасля пачатку савецкай акупацыі ў 1939 г. універсітэт быў зачынены. Пасля пачатку нямецкай акупацыі Вітаўт Рамук вярнуўся на Лідчыну, працаваў у гарадской лідскай адміністрацыі перакладчыкам, стараўся арганізоўваць беларускае жыццё. У Лідзе ён працаваў разам з вядомым беларускім актывістам Адольфам Клімовічам, які лічыў, што нельга пры новай акупацыі сядзець як мышы пад венікам, а трэба арганізоўваць беларускі рух.

У вайну памерлі бацькі Рамука — бацька ў 1941 годзе, маці — у наступным. У 1944 годзе Вітаўт Рамук у ліку многіх іншых беларускіх патрыётаў быў змушаны эміграваць. Тыя ж, хто застаўся ў Вільні, прыкладам згаданыя Клімовіч і Сакалова-Лекант, будуць засуджаныя да вялікіх тэрмінаў зняволення ў савецкіх канцлагерах. Пасля капітуляцыі Нямеччыны Вітаўт Рамук апынуўся ў Мюнхене, працягнуў навучанне медыцыне ў Лювенскім універсітэце ў Бельгіі. У Лювене Рамук таксама браў актыўны ўдзел у беларускім грамадскім жыцці і нават некаторы час кіраваў беларускай студэнцкай грамадой. Таксама ўдзельнічаў у з'ездах міжнароднай студэнцкай каталіцкай арганізацыі Pax Romana.

Непрацяглы час Вітаўт Рамук жыў у брытанскім Лондане, дзе некаторы час быў намеснікам старшыні Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі (1954), але неўзабаве вярнуўся ў Бельгію. Некаторы час ён працаваў у дзіцячым прытулку ў Бруселі. Праз некаторы час Вітаўт Рамук пераехаў у ЗША, пасяліўся ў штаце Ілінойс. Пэўны час ён жыў у горадзе Пеорыя, а потым пераехаў на стала ў Чыкага.

У 1958 г. Рамук ажаніўся з беларускай Верай Жызьнеўскай, якая была маладзейшай за яго на 17 гадоў. У Рамукоў нарадзіліся двое дзяцей. Сын Янка (John Romuk) пазней зрабіў кар'еру ў кампаніі Hitachi, а дачка Ірэна стала педагогам. Вітаўт і Вера Рамукі бралі актыўны ўдзел у жыцці беларускай грамады ў Чыкага, разам працавалі ў Беларускім каардынацыйным камітэце, былі актывістамі грэка-каталіцкай парафіі Хрыста-Збаўцы. Вітаўт Рамук працаваў у Цэнтры педыятрыі, а затым у Дзіцячым цэнтры ў Чыкага. Ён пайшоў на пенсію толькі ў 74 гады.

Калі Беларусь стала незалежнай краінай, у 1993 г., Рамукі па запрашэнні прадстаўніка Беларусі пры ААН Генадзя Бураўкіна і пасланніка Беларусі ў Вашынгтоне Міхаіла Хвастова здолелі наведаць сваю радзіму. Потым збіраліся яшчэ раз прыехаць у Беларусь, але ўжо не атрымалася. Памёр Вітаўт Рамук у Чыкага 1 сакавіка 2010 г., пражыўшы больш 95 гадоў. Вера Рамук перажыла мужа толькі на пару месяцаў.

❖ Уладзімір Хільмановіч

*На фота: Вітаўт і Вера Рамукі*

10 ☞ працяг

Побач могільніка шмат аўтамабіляў. Няма дзе нос сунуць. Яшчэ больш людзей. Спыняемся над магілай дзядзечкі Косці (1896 года нар.), цёткі Лідзіі (1903 года нар.), затым Марыі і Нікалая Панасюкоў, Тані і Аляксея Кандрацюкоў. Навокал царыла цішыня. Пляменніца Ларыса запальвае лампадкі. Да кампаніі далучаецца Марыя, Васіля жонка. Братуха не ў змозе быў прыехаць, здароўе не дазволіла. Прабываў якраз у Брэсцкай бальніцы. Наведвальнікі пакрысе праходзяць у суседні лясок. Мы за імі. Валерка, сын Олі, з машыны прынесціць плед, рассцілае на зямлі пад дрэвамі. І тут жа сыпнуў дождж. Хаваліся людзі хто-куды. Праз некалькі хвілін паказалася сонца. Такое было надвор'е, як сёлета. Хутка сцякаў час. Набліжалася трэцяя гадзіна пасля абеду. Час нам збірацца на граніцу. Пакідаем кампанію.



■ Справа налева: Васіль з жонкай, сястра Оля і дзядзька Косця; сядзіць цётка Лідзія з унукам

— А не забудзьце ў наступным годзе прыехаць, — чуецца голас Шуры, сястры швагра Валодзі. — Будзем чакаць...

Але лёс не дазволіў больш сустрэцца на могільніку ў Вярховічах. Наступнага года пляменніца Ларыса заўчасна пакінула нас і адышла ў вечны спачын. У наступным годзе памерла мая Анна Сцяпанаўна. У чэрвені сёлета памёр дваюрадны брат



■ Жонка брата Аляксандра з сынамі

Валодзя — апошні сеньёр з роду Селяхаў. Няма таксама нашай сястрыцы Гені, з якою падарожнічалі на зямлю суродзічаў нашай матулі. Няхай ім зямля пухам стане!

❖ Уладзімір СІДАРУК

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. ядавітая змяя = 17 _ 18 _ 23 _ 24 _ 19 _ 8 _ 9 _;
2. жонка Адама = 2 _ 29 _ 13 _;
3. сталіца Украіны = 27 _ 32 _ 25 _ 26 _;
4. свіны нос = 6 _ 37 _ 36 _;
5. Джакома, італьянскі кампазітар оперы „Мадам Батэрфляй” = 14 _ 28 _ 20 _ 21 _ 10 _ 7 _;
6. шчупак або акула = 15 _ 30 _ 31 _ 16 _;
7. мангольскі ўладар = 3 _ 22 _ 1 _;
8. горы ў Швейцарыі і Францыі = 35 _ 33 _ 34 _;
9. гнойная ранка на скуры = 11 _ 12 _ 4 _ 5 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**

Бык, гнеў, Лец, Сеня, Сож.

Рашэнне: **Кожны бес цягне ў лес**.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:
Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# 21.07 — 29.07

**(22.03. — 20.04.)** 21-27.07. вызваліцца ў табе гейзер энергіі. Зможаш пераносіць горы! Не праводзіш часу бестурботна, усё думаеш пра камфорт сям'і. Грошы заробіш маланкава, ды нічога не адкладзеш. Пераканаешся, што лепш мець сумленных працаўнікоў, чым няшчырых сяброў. Не прастудзіся!

**(21.04. — 21.05.)** 23-25.07. вырашыш усе справы, якія не давалі табе спакою. 23-25.07. можаш пачуць любоўныя дэкларацыі. 21-23.07. правер, ці ўзяў білеты, багаж, дакументы... Не канцэнтруйся адно на здабыванні грошай, бо можаш страціць важнейшае. Каханне стукае ў дзверы раз-пораз. Час на сур'ёзныя размовы, аналізы і папраўу адносін у пары. Можаш зарабіць грошы (іграй!).

**(22.05. — 22.06.)** 23-25.07. можаш танна купіць штосьці прыгожае для дому. Пасля 27.07. можаш сустрэць кагосьці, з кім перажывеш цудоўныя хвіліны. Можаш спадзявацца павышэння. Будуць належна ацэнены твой спрыт, інтэлігентнасць, адвага. Асцерагайся, каб не страціць таго, што зарабіў (азарт!). Можа хутка паправіцца, дык трымай дыету.

**(23.06. — 23.07.)** 23-25.07. выдатны час для наладжвання знаёмстваў. 21-23.07. можаш «зайграць на носе» былому. 21-22.07. інвестуй у вучобу. Можаш разлічваць на апеку і падтрымку сяброў. Затое з адным сябрам будуць турботы. Можа адмовішся ад праектаў, якія раней лічыў важнымі. Не схочаш працаваць з кімсьці, да каго страціў давер.

**(24.07. — 23.08.)** 21-27.07. здабудзеш павышэнне і мацнейшую пазіцыю. Але з 27.07. (да 31.07.) можа штосьці, на чым табе залежыць, пайсці не па плане. Ты здольны да таго, каб перамагчы любыя перашкоды. Засяродзься аднак найбольш на сабе і сваім партнёры. Тым больш, што чакаюць цябе незямныя жарсці! Пільнуйся ад вільгаці, грыбкоў.

**(24.08. — 23.09.)** 21-22.07 можаш раптам зразумець нейкія важныя справы. Магчымыя сваркі на працы. 23-25.07. можа да цябе застукаць неспадзяваны госць, але доўга ў цябе не пабудзе. Раздражненасць пойдзе на спад. З 27.07. твае геніяльныя ідэі захопяць усіх, але твой імунітэт можа апынуцца на дне. З 27.07. будуць ўзнагароджаны твае сумленнасць, майстэрства і адданасць.

**(24.09. — 23.10.)** 21-23.07. не палічы няслушна кагосьці тваім ворагам. 21-23.07. пільнуйся ад інтрыг і абгавораў. 23-25.07. дойдуць да цябе цудоўныя неспадзяваныя весткі. Не намагайся на нейкія амбітныя мерапрыемствы. Не выдавай, пакуль не зарабіш! З 27.07. вельмі дбай аб свае ванторбы, асабліва калі будзеш у цёплым краі.

**(24.10. — 22.11.)** 21-23.097. не стань ахвярай маніпуляцыі; можа на цябе абразіцца твой партнёр — падумай, ці не мае ён рацыі. 23-25.07. даведаешся аб супрацоўніках, як добра з табою працуецца і гатовы яны табе ва ўсім памагчы, шэф таксама не адмовіцца ад павышэння ці прэміі для цябе. Асабліва з 27.07. (да 31.07.) абмінай асобы занятыя і з кепскай рэпутацыяй. Скарпіён з І дэкады можа паспяхова сесці на дыету, кінуць благія звычкі.

**(23.11. — 22.12.)** 21-23.07. пільнуйся ад залётнікаў, якія думаюць толькі, каб падчапіць сваю ахвяру. 21-27.07. пераможаш перашкоды і адчуеш вялікае задавальненне. 22-28.07. пільнуйся ад прастуды. 21-27.07. зможаш апынуцца на чале калектыву і ніхто не ўстаіць перад тваімі аргументамі. Маеш шанцы не павышэнне. Адкрываюцца рэдкія шанцы. Ды дай сабе шанц крыху паленавацца.

**(23.12. — 20.01.)** 22.06. (да 29.07.) будзеш заўзяты і помслівы. Адвага, прадпрымальнасць. Да 25.07. лепш пазбягай падарожжаў і кантактаў з чужаземцамі. Дбай пра добрую атмасферу ў сям'і. 22-28.07. будзеш заўзяты і ўпарты, дык лепш табе не ўваходзіць у дарогу. Але ж развяжаш праблемы сяброў і палагодзіш сямейныя канфлікты.

**(21.01. — 19.02.)** 22-28.07. могуць выплысці якіясь змрочныя сакрэты тваёй пары; можа трэба будзе падумаць аб будучыні. Пасля 23.07., калі шукаеш працу, знойдзеш яе, але патрабаваць яна будзе поўнага аддання і выездаў; варта будзе панегацыяваць (добры час 20-27.07.). 27.07. чыясь заўвага можа давесці цябе да кіпення. Рашэнні з 27.07. (да 31.07.) могуць аказацца фатальнымі ў паслядоўнасцях. Спыніся, паразважай над тым, што нішчыць тваё здароўе.

**(20.02. — 21.03.)** Здабудзеш сімпатыю і прыцягнеш шчасце. Да працы падыдзеш крэатыўна. Больш аптымізму, умеласць прыцягваць да сябе ветлівых людзей. 21-22.07. не ўбльтайся ў фатальны раман. Будзь спакойны і абачлівы! З 27.07. варта падацца ў адпачынак, у санаторый, пайсці на масаж. І пакаштаваць добрага марозіва!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Крос па Еўропе-Б

Не надта даўно заўважыў я навіну, што наш урад збіраецца ўзнавіць камунікацыі ў адлеглыя мясцовасці, якія — камунікацыі — былі закінуты апошнімі гадамі. Дзеля гэтага мае быць устаноўлены спецыяльны фонд, з якога будуць фінансавацца даплаты да гэтых дэфіцытных камунікацый. І здаецца, што мае гэта датычыць толькі камунікацый спыненых у апошнія тры ці чатыры гады. А калі гэта адбылося раней, тады гэтым камунікацыям не ўваскрасаць. Гэтыя абяцанні — пакуль толькі абяцанні — здаецца, не закрануць нашай тутэйшай глыбінкі. Для прыкладу — аўтобуснага маршрута ў Баброўнікі, які кануў у Лету раней.

Каторы ўжо раз згадваю я пра гэтыя нашы Баброўнікі, на якіх і пагранпераход, які, згодна ўсялякім эканамічным тэорыям, мае разварушыць гаспадарчы бум у мясцовасці. Але надалей працягваецца той бум, які высмактаў наша насельніцтва з нашай Польшчы-Б у Польшчу-А, а зараз смокча ён насельніцтва Еўропы-Б у Еўропу-А; больш яркімі за наш прыкладамі гэтага працэсу Балгарыя і Румынія...

Выбіраўся я ў бок Баброўнік як славутая сойка за мора, чакаючы з таго мора пагоды. Ну, і дачакаўся. Павалокся я на аўтобусе ў Крушыняны, бо туды яшчэ аўтобусы публічнага транспарту даходзяць. Спярша поездам у Саколку, а затым аўтобусам. Выбраўся я ў чацвер, калі аўтобус у Крушыняны калесіць цераз Гураны. У вобрубе Паўднёвага Вострава, і Новага Вострава, і Гуран галоўная дарога цераз гэтыя вёскі акурат заліваецца гладкім як стол асфальтам. Але на канцы Гуран той асфальт канчаецца і колаваму транспарту прыходзіцца змагацца з капрызнай жвіроўкай. Яна, жвіроўка, на цэлым адрэзку ад Гуран да Крынак „вымашчана" папярочнымі жвіровымі „брусамі". Аўтобус — айчыннай маркі „Аўтасан" — крыху ўжо здарожаны на такіх жвіроўках і ўсе ягоныя часці войкаюць ад пакут язды па такой „валкаўніцы". Кожная часць таго аўтобуса здаецца быць асаблівым музычным інструментам у зладжаным аўтаканструктарамі ансамблі. І ўсе часці, калі аўтобус змагаецца з тамашняй дарогай у гмінны цэнтр, састаўляюць адмысловы сімфанічны аркестр, які выконвае хеві-металічны канцэрт. Калі машына калясіць брава, то і „інструменты" галосяць *fortissimo*, калі ж скрыгатная катавасія становіцца невыноснай і шафёр збаўляе ход, тады і ўвесь той інструментарый пераходзіць у *pianissimo*. У салоне музыкай раскашуецца бадай сем пасажыраў, а навонкі слухаюць яе галоўным чынам сасонкі, менш вербы, а бліжэй Крынак сур'ёзны вусаты ячмень, палеткі жыта, кукурузы, грэчкі, пустазелля. Час канцэрта ад Гуран да Крынак стандартны, як у Бетховена ці Брамса. Проста — Еўропа...

Высаджваюся ў Крушынянах; перада мною каля дваццаці кіламетраў хады і каля пяці гадзін часу на тую хаду. Трэба пастаянна пазіраць на гадзіннік, на тую кароткую часапрастору, каб паспець на той перадапошні аўтобус, які дазволіць мне вярнуцца з Крушынян; спадзявацца на апошні аўтобус крышку рызыкоўна, бо ўсяляк у нас бывае...

Таму няма часу разглянуцца па Крушынянах, чашу ў напрамку Лужан. Шагаю па гладкай асфальтоўцы, якая абрываецца ў жвіроўку на мяжы Крынскай і Гарадоцкай гмін. І зараз Лужаны. Заглянуў я калісь сюды, гадоў можа з дзесяць таму. У былым калгасным комплексе працавала тады гусіная ферма, даючы ў наваколле задушлівы пах шматлікага гусінага калектыву. Цяпер там амаль як у слаўнай савецкай песні, *где так вольно дышит человек*. За агароджай статак авечак, будынак зернясховішча, абора. З другога боку жылы блок, выгляд якога паказвае, што душыцца ён там быццам надалей побач яго працавала гусіная ферма. На вясковай вуліцы пуста, няма часу заглянуць у яе глыбінку. Каля расходных дарог два „нашы" жалезныя крыжы на брусчатцы за жалезнай агароджай; самасейныя кветачкі паспяхова змагаюцца з абярэгам абясціленай вёскі, чарадой прабіваючыся ў свой вырай паміж бруской...



Жылы блок у Лужанах



Сафія і Міхал Цацэркі



Помнік чырвонаармейцам у Баброўніках

У пачатку 1952 года „Газета Беластоцкая" пісала: „Wieś Łużany w gminie Krynki (pow. Sokółka) posiada bardzo lichą glebę, toteż przed wojną częstym gościem bywał tu głód. Gorzej, nieraz brakowało nawet wody, bo na 40 gospodarstw była tylko jedna studnia. Ze względu na dużą głębokość wody nie stać było ludzi na kopanie studni. Inne życie zaczęło się po wyzwoleniu. Wielu ludzi poszło do pracy w mieście, w PGR-ach, wielu w wyniku reformy rolnej poszło na lepszą ziemię gospodarzyć. Były to jednak tylko półśrodki. Prawdziwe życie rozpoczęła gromada w 1950 r. Po długich naradach 22 małorolnych i średniorolnych chłopów w Łużanach postanowiło zorganizować spółdzielnię produkcyjną. Ze względu na lichą i górzystą ziemię postanowiono hodować owce. Przy pomocy kredytów państwowych wybudowano owczarnię na 200 owiec. W chwili obecnej spółdzielnia posiada 84 owce. Na obszarze 5,5 ha posadzono sad owocowy". Далей газета пісала, што старшыня калгаса працуе разам з брыгадамі ў полі. Аднак ёсць і менш ахвотныя да працы, але калі пачынаецца дзяленне прыходу, яны шкадуюць, што выпрацавалі так мала працадзён. Але ўжо некалькі месяцаў пазней тая ж газета паведамляла, што ў Лужанах няма разліковых працадзён: „Nic więc dziwnego, że członkowie spółdzielni produkcyjnej pracują *według własnego uznania i sumienia*". І брыгадзіра там няма, і кнігавода...

У міжчасе ў Лужаны была прыехала дэлегацыя з беластоцкай фабрыкі Сяржана на двух грузавіках аздобленых зеленню, транспарантамі і сцягамі. І з падарункамі калгаснікам: „Przewodniczący Rady Zakładowej [...] włożył na samochód dwie uzdy, wykonane przez rymarzy fabrycznych z odpadków skórzanych, kilka metrów starej liny na postronki i 20 zębów do sprężynówek ze starych resorów".

Завязалася гутарка:

— Powiedzcie tam swoim towarzyszom w fabryce, że my tu w Łużanach rozpoczęliśmy walkę o to, by ziemia rodziła nam coraz obficiej, by dostarczyć wam jak najwięcej żywności.

— A jak z paszą dla bydła? Dostarczyli wam?

— Dostarczyli. Jednak siano jest stęchłe i spleśniałe. Konie nie chcą go jeść.

А на канец была мастацкая частка: „Młodzież z Technikum Włókienniczego śpiewała ludowe pieśni polskie i pieśni radzieckie. Następnie odegrano sztukę świetlicową „Bumelant", ośmieszającą nierobów i szkodników..."

За дарожным паказальнікам напраўляюся ў напрамку Баброўнік. Паша, на якой прысутныя авечкі, далей паказваецца быць згаданым раней садам са старымі яблынямі. А яшчэ далей залёг статак мясных кароў...

Пад жвіроўкай перад Ярылаўкай і за Ярылаўкай дзве новыя пратокі; мабыць і тут рыхтуюць дарогу пад асфальтавы насціл, каб было як у суседняй гміне. Каля Баброўнік было калісь сем гібеючых будынкаў па аўчарнях, зараз асталіся два, але адрамантаваныя.

Няма часу прайсціся ўздоўж трансгранічнай шашы, пабачыць бытавую інфраструктуру пагранперахода. Быў калісь там радок буданчыкаў з хуткай кулінарнай прапановай, але зараз яго не відаць. Ёсць іншыя, больш салідныя аб'екты, але няма часу. Заглядаю ў наваколле колішняй школы. Ад дзясятка гадоў нічога там не змянілася ад чалавечай рукі, затое пабуйнела там прырода. Шукаю помніка савецкім салдатам; яшчэ ёсць, цяпер закінуты ў нікому незаходнае месца. Пастаўлены ён быў у 1960 годзе і ўрачыста адкрыты з ганаровым караулам Войск аховы пагранічча, важнымі дэлегацыямі з кветкамі ды вучнямі са школ у Вераб'ях, Скрабляках, Мастаўлянах і Баброўніках, якія дэкламавалі вершы; а пад вечар быў паказаны савецкі фільм...

Зноў пазіраю на гадзіннік, вылажу ад помніка цераз кусты і травы на баброўніцкую вуліцу, якая павісла над трансгранічнай дарогай, і шпару ў бок Крушынян, у бок Коматаўцаў. На канцы Баброўнік бачу нетаропкую пару пажылых людзей. Наближаемся і... Вачам не хочацца верыць, гэта нашы Цацэркі, нашы верныя чытачы Сафія і Міхал Цацэркі. Колькі калісь разоў не бываў я ў Баброўніках, заўсёды да іх заходзіў, і заўсёды былі яны ў хаце, і заўсёды была ў іх вясна. А сёння не было часу падацца да іхняй хаты, што ў другім канцы вёскі, з боку Габят. Калі гара не хоча прыйсці да Магамета, то Магамету трэба... А яны ж зусім выпадкова нашпацырылі на сустрэчу са мной. Радасць ад сустрэчы, але няма, на жаль, часу для гутаркі, толькі хвілінка шчоўкнуць здымак...

У Баброўнікі і Коматаўцы аўтобусы не заязджаюць ужо шмат гадоў, але асталіся там аўтобусныя прыпынкі. Як памяткі, як помнікі нядаўняй даўніны. На завароты ў Коматаўцах нават пастаўлены крыж, быццам памінальны знак па значнасці вёскі.

У Коматаўцах і Ласінянах на вуліцу паказваюцца пажылыя вяскоўцы. Але мой напружаны баланс паміж часам і прасторай не дазваляе мне спыніцца каля іх, пагутарыць. У Крушынянах заходжу каля дваццаці хвілін да адпраўлення аўтобуса ў Беласток. То яшчэ маю час заглянуць на тамашнія могілкі, дзе пакоіцца мой першы і адзіны настаўнік рэлігіі, першы запамятаны мною ляўкоўскі святар Рафаіл Чыстоўскі. Калі вяртаюся адтуль у напрамку аўтобуснага прыпынку, спыняецца каля мяне легкавушка і шафёр прапануе падвезці мяне ў Беласток. Здарожаны згаджаюся. Мой дабрадзей прадстаўляецца крушынянскім настаяцелем. Пад апекай Міраслава Луцюка два прыходы: Крушынянскі і Юраўлянскі. Расказвае мне пра сваю тут дзейнасць, пра адноўленыя храмы. Прыхаджане не надта ахвотныя аднаўляць узведзеныя іх продкамі месцы культу. Аднаўленне храмаў у гэтых двух прыходах адбылося дзякуючы шуканню настаяцелем спонсараў. І яны знайшліся. У яго прыходскіх цэрквах не давялося мне бываць, а вось выгляд могільнікавай капліцы ў Юраўлянах прыемна мяне ўразіў, калі я туды заглянуў сёлетнім прадвеснем...

Гэта дзякуючы энтузіязму айца Міраслава. А паспалітаму насельніцтву нават не хочацца глядзець у свой высмактаны бок, у бок сваёй спадчыны, у бок сваёй малой айчыны-Б. А недзе, далёка за мяжой нашага публічнага транспарту, Еўропа-А-А-А...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 29